ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 52 (13584)

24 —31 снежня 1992 года

Кошт 3 рублі.






# З НОВЫМ ГОДАМ!

# НАДОЕЧЫ

## СТОП-ФАКТ

### ПЛЕНУМ ЦК СМБ

На мінулым тыдні адбыўся пленум ЦК Саюза моладзі Беларусі. Адным са штуршкоў да склікання пленума стала прынятая 16 снежня пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Пытанні Саюза моладзі Беларусі".

На пленуме ішла гаворка аб надзённых праблемах СМБ, разгляваліся палітычныя, арганізацыйныя і фінансавыя пытанні. За час работы былі прыняты рэзалюцыі "Аб адносінах да дзяржаўных структур па справах моладзі", "Аб адносінах да прыняцця Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь", "Аб адносінах да Федэрацыі прафесіянальных саюзаў Беларусі", пастановы, звязаныя з работай Саюза моладзі.

На пленуме выступіў старшыня Камітэта па справах моладзі М.В.Падгайны. Ён заклікаў прысутных да ўзаемнай работы, да аб'яднання намаганняў па пераадоленню цяжкасцей.

**Франц ЛЯВІЦКІ.**

### ПЕРШЫ СХОД БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

19—20 снежня ў Доме літаратара сталіцы адбыўся першы Сход беларусаў блізкага замежжа. Перад прысутнымі з прывітальнымі словамі выступілі Станіслаў Шушкевіч, Міхаіл Дзямчук, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Адам Мальдзіс, Міхаіл Слямнёў, Мікола Маркевіч, Павел Казлоўскі, Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Анатоль Белы, Пётр Краўчанка. Даклад ад Рады ЗБС "Бацькаўшчына" "Беларусы свету: гісторыя, сучаснасць, праблемы і шляхі іх вырашэння" зачытаў доктар гістарычных навук Леанід Лыч.

У суботу ўдзельнікі сходу ўсклалі кветкі да помнікаў дзеячаў беларускага Адраджэння.

У той жа дзень яны мелі магчымасць атрымаць кансультацыі па розных пытаннях з боку афіцыйных уладных структур Беларусі.

У нядзелю сход працягваў сваю працу. У другой палове дня прайшла прэс-канферэнцыя па выніках працы першага Сходу беларусаў блізкага замежжа з удзелам прадстаўнікоў беларускай дыяспары, сяброў Рады ЗБС "Бацькаўшчына", прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**

### БРЭСТЧЫНА ПОМНІКІ ВЫРАТУЕ?..

Чатыры ўстановы выступілі арганізатарамі навукова-практычнай канферэнцыі "Помнікі гісторыі і культуры Брэстчыны: праблемы вывучэння, аховы і выкарыстання". Гэта Брэсцкі педагагічны інстытут, абласное аддзяленне Фонду культуры, абласны савет аховы помнікаў і абласное ўпраўленне адукацыі. А каб не атрымалася "дзіця без вока", рыхтаваў і вёў рэй старшыня абладдзялення БФК, дацэнт Уладзімір Меляшкевіч. У канферэнц-зале пединстытута сабраліся выкладчыкі і настаўнікі грамадскіх культурна-асветных арганізацый.

Тэмы паведамленняў самыя разнастайныя: помнікі каменнага веку, эпохі мезаліту, абарона Брэсцкай крэпасці, помнікі яўрэйскай культуры, праблемы выкарыстання помнікаў архітэктуры, татары на Палессі, архітэктурныя стылі...

Абласная бібліятэка падрыхтавала кніжную выставу, якая была разгорнута тут жа, у зале. На стэлажах змясцілі і ксеракопіі артыкулаў па гісторыі Беларусі, што былі надрукаваны ў Польшчы.

Канферэнцыя вызначыла накірункі працы, падштурхнула да супрацоўніцтва навукоўцаў і аматараў.

**Уладзімір СУХАПАР.**

### ФОНД ДЛЯ МАЛАДЫХ

У Маладзечна створаны фонд падрыхтоўкі кадраў для горада. Цяпер штогод за кошт гарвыканкама каля 20 здольных навучэнцаў школ, ПТВ і тэхнікумаў будуць атрымліваць вышэйшую адукацыю ў Мінску.

**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**

### АМЕРЫКАНСКАЕ "ЗЕРНЕ" НА НАШАЙ ЗЯМЛІ

Нацыянальныя сцягі ЗША і Рэспублікі Беларусь сталі сімваламі выставы "Зерне зьмен", якая пачала працаваць з 20 снежня ў Нацыянальнай бібліятэцы і прысвечана 500-годдзю адкрыцця Амерыкі Калумбам.

Выстава невялікая, але і яна дае магчымасць крыху больш даведацца пра тую супер-дзяржаву, якую многія з нас нават у сне бачаць. Стэнды і плакаты, размешчаныя ў вестыбюлі бібліятэкі, расказваюць пра дасягненні сучаснай Амерыкі і шляхі яе развіцця.

**Франц ЛЯВІЦКІ.**

### СУСТРЭЧА З САКРАТАМ

18 снежня ў Доме літаратара адбылася прэм'ера кнігі Сакрата Яновіча "Самасей". Аўтар адказаў на шматлікія пытанні пра лёс беларусаў Беласточчыны, шляхі Адраджэння... У памяць урэзалася фраза:"У нас унікальная сітуацыя, калі не народ стварае дзяржаву, а дзяржава павінна стварыць народ".

Акрамя таго, выступіў вандроўны тэатр з Беласточчыны "Балаган" пад кіраўніцтвам Янкі Мордана.

**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**

## ЛІК НА ТАБЛО

Канец года – той самы час, калі можна падвесці вынікі і заняцца раздачай "сланоў", г.зн. размеркаваць шматлікія спартыўныя прызы.

Акадэмія спорту Францыі ўручыла сваю галоўную ўзнагароду "Гран-пры" мінскаму гімнасту Віталю Шчэрбе як лепшаму спартсмену года.

Таксама французскі штотыднёвік "Франс футбол" уручыў "Залаты мяч" за 1992 г. Марка ван Бастэну – нападаючаму зборнай Галандыі і італьянскага "Мілана". Раней ён ужо два разы атрымліваў гэты самы ганаровы футбольны прыз у свеце (было гэта ў 1988 і 1989 гадах). Да яго тройчы сталі лепшымі толькі Йохан Круіф і Мішэль Плаціні.

* * *

Міжнародная шахматная федэрацыя (ФІДЕ) абнародавала рэйтынг-ліст, у які ўключаны лепшыя шахматысты свету. Наш Барыс Гельфанд на пятым месцы (2690). Перад ім Гары Каспараў (2805), Анатоль Карпаў (2725, абодва – Расія), Васіль Іванчук (Украіна) і Вішванатан Ауанд (Індыя), у абодвух – 2710.

* * *

У Саарбрекене адбыўся другі гандбольны матч зборнай свету з камандай Германіі. Лік нічыйны – 23:23. У складзе зборнай свету мінчанін Міхаіл Якімовіч закінуў шэсць мячоў. Выступалі ў ёй таксама два расійскія гандбалісты – варатар Лаўроў і Дуйшэбаеў, які правёў тры мячы.

* * *

У чарговых матчах хакейнага першынства Расіі ачкі, набраныя гродзенскім "Нёманам" і наваполацкім "Хімікам", значнага ўздзеяння на турнірнае становішча гэтых каманд не аказваюць. Але гэта не перашкаджае іх няспынна набываць. "Нёман" спачатку двойчы перамог аленягорскі "Гарняк" – 5:1 і 2:0, потым – СКА-2 (Санкт-Пецярбург) – 6:0 і 8:1. "Хімік" наадварот: спачатку СКА-2 – 8:2 і 3:0, а потым "Гарняк" – 4:3 і 7:4. Вось такая радасная арыфметыка.

* * *

Зборная суседняй Латвіі па футболу, якая выступае ў трэцяй адборачнай групе чэмпіянату свету, пацярпела фіяска ў Севільі, дзе сустракалася з фаварытам групы – іспанскай зборнай. Пяць безадказных мячоў прапусцілі латвійцы, і ўсе ў другім тайме.

**Яўген ПУЧКОЎ.**

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

### *МАГІЛЁЎ*

#### НОВЫЯ ПАРТЫІ СЫХОДЗЯЦЬ СА СЦЭНЫ

Паглыбляецца крызіс у Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Нядаўна на сваім сходзе прынялі рашэнне аб самароспуску магілёўскія нацыянал-дэмакраты. Асноўная прычына роспуску – раскол у кіраўніцтве партыі і адсутнасць сапраўднага лідэра.

Невялікая сума грошай, што знаходзілася на рахунку арганізацыі, ахвяравана на выданне газеты "Наша ніва".

#### БНФ — ЛІЦЭЮ

Добры падарунак перад Калядамі атрымалі слухачы Беларускага нядзельнага ліцэя, што працуе пры Магілёўскай філіі Беларускага гуманітарнага арганізацыйна-культурнага цэнтра. Старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэнне" спадар Анатоль Фёдараў перадаў у бібліятэку філіі 160 асобнікаў кнігі Вацлава Ластоўскага "Кароткая гісторыя Беларусі".

#### ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА ЧАЛАВЕКА

12 снежня ля дома № 11-а па вуліцы Ленінскай адбылося ўрачыстае адкрыццё памятнай мемарыяльнай дошкі Георгію Каніскаму – святару, асветніку, пісьменніку і палітыку XVIII стагоддзя, які быў абаронцам праваслаўя на Беларусі. У час дзейнасці гэтага чалавека ў Магілёве з'явіўся будынак духоўнай семінарыі, кафедральны сабор, адкрываліся праваслаўныя народныя школы.

**Падрыхтаваў Юрась ПІВУНОЎ.**

### *ВІЦЕБШЧЫНА*

#### ЭКАНОМІКА ПАВІННА БЫЦЬ ЭКАНОМНАЙ

Нягледзячы на даволі эфектыўную працу, значную эканомію паліва, адміністрацыя Лукомльскай ДРЭС звярнулася да жыхароў Новалукомля з заклікам зберагаць цяпло ў кватэрах. Прычына – "вялікія цяжкасці ў забеспячэнні палівам" электрастанцый.

#### БЯСПЛАТНЫЯ ЭКСКУРСІІ

Віцебскае абласное аб'яднанне па арганізацыі пазашкольнай працы з дзецьмі і падлеткамі праводзіць з мэтай асветніцтва, вяртання гістарычнай памяці, фарміравання нацыянальнай беларускай самасвядомасці бясплатныя экскурсіі для школьнікаў 5–11 класаў па гістарычных мясцінах старога Віцебска.

**Падрыхтаваў Паўлюк Быкоўскі.**

### *ТАЛАЧЫН*

#### "У МЯНЕ ЗАЗВАНІЎ ТЭЛЕФОН..."

Нарэшце ў раёне выдадзены новы тэлефонны даведнік. У параўнанні з тым, які служыў больш як дзесяць гадоў, гэты адрозніваецца лепшым афармленнем і... высокім коштам.

Але абурае многіх не цана. Няхай бы ён каштаваў яшчэ на дзесяць ці дваццаць рублёў больш, ды адпавядаў свайму прызначэнню. Справа ў тым, што ў даведніку пераблытаны многія тэлефонныя нумары, скажоныя прозвішчы людзей. Напрыклад, звоніць чалавек у радзільны дом, а трапляе ў бібліятэку...

#### НАЗВАЛІ ІМЕМ СКАРЫНЫ

Нягледзячы на супярэчнасці нашага жыцця, няспынны рост цэнаў, людзі будуюцца. У выніку яшчэ адна новая вуліца вырасла ў Талачыне. Ёй далі імя выдатнага беларускага асветніка і грамадскага дзеяча Францыска Скарыны.

#### "МАРГАРЫН — МАСЛА ДЛЯ БЕДНЫХ"

Многія талачынцы ўзрадаваліся, калі на прылаўках прадуктовых крамаў убачылі смятану, якая каштуе не 34 рублі за кілаграм, а 30. Маўляў, патаннелі малочныя прадукты. Але прадаўцы растлумачылі, што гэта смятана ўтрымлівае не 24 працэнты тлушчу, а 20. У продаж можа паступаць смятана двух гатункаў. На густ пакупнікоў, ці як казалі на Захадзе, маргарын – гэта масла для бедных. Няхай сабе будзе так. Вось толькі пажадана, каб работнікі гандлю не блыталі смятану, а прадавалі па адпаведных яе якасці цэнах.

**Падрыхтаваў Сяржук ПЛЯСКАЧ.**

### *ГОМЕЛЬ*

Дзіцячы садок № 14 "Палянка" сёлета стаў беларускамоўным. Старанныя работніцы стварылі тут утульны куточак сялянскай хаты. Цешаць вока атрыбуты нашых самабытных продкаў. У невялічкім пакойчыку знайшлося месца для абразка, самапрадкі, ручнікоў-вышыванак, настольніка, дзіцячай калыскі, лялек. Дзятва ахвотна прымае ўдзел у розных мерапрыемствах, весела адзначае народныя святы.

* * *

Работнікі гарадскога ваенкамата вельмі заклапочаны. Асобныя хлопцы не надта жадаюць служыць у войску. Яны ідуць на розныя хітрыкі ці проста знікаюць з поля зроку. На паліцах ужо з'явіліся пухлыя папкі са справамі такіх прызыўнікоў.

**Падрыхтавала Ганна АТРОШЧАНКА.**

## ФОТАЖАРТ



Фота Леаніда ЛУКАШЭВІЧА.

## НАВІНЫ АД ГАЎДЭАМУСА

### ЗА БУДУЧЫНЮ СТУДЭНЦТВА

Нарэшце адбылася рэспубліканская студэнцкая канферэнцыя "Нацыянальная вышэйшая школа на Беларусі", падрыхтаваная Задзіночаннем беларускіх студэнтаў (ЗБС), пры фундацыі ўпраўлення ВНУ і педадукацыі Міністэрства адукацыі, Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Прааналізаваўшы стан вышэйшай адукацыі, канферэнцыя вынесла наступныя прапановы па зменах у арганізацыі навучальнага працэсу.

Палічылі немэтазгодным існаванне 4-х тыпаў ВНУ (універсітэты, акадэміі, інстытуты, вышэйшыя каледжы). Прапанавана ўвесці 2 асноўныя тыпы: універсітэты і калегіі, якія будуць адпавядаць двум асноўным узроўням вышэйшай адукацыі (бакалаўр і магістр).

У кожнай ВНУ неабходна стварыць органы студэнцкага самакіравання, здольныя абараняць студэнцкія правы.

Канферэнцыя параіла адмяніць старыя ды не ўводзіць новыя льготы для абітурыентаў. Адзіным крытэрыем для паступлення могуць быць толькі веды, выяўленыя пад час уступных іспытаў.

Галоўнай мэтай універсітэцкага навучальнага курса павінна быць развіццё ў студэнтаў навыкаў самастойнай і навуковай працы. У сувязі з гэтым у падмурак павінны быць закладзены два асноўныя прынцыпы:

— шырокая тэарэтычная падрыхтоўка;

— самастойная праца.

Галоўнай мэтай калегійнай адукацыі павінна быць падрыхтоўка інжынерна-тэхнічных, педагагічных, адміністрацыйных і іншых кадраў.

Было заўважана, што формы выкладання таксама патрабуюць зменаў. Гэта і рэформа лекцыйнай сістэмы, шырэйшае выкарыстанне індывідуальных праграм навучання, стымуляванне навукова-даследчай працы студэнтаў.

Канферэнцыя выступіла за ўвядзенне магчымасці пасля паспяховага заканчэння студэнтам 1-га курса бесперашкоднага атрымання ім акадэмічнага водпуску.

Абмяркоўвалася пытанне аб выкананні "Закона аб мовах". Дэлегаты прыйшлі да думкі, што адначасовае існаванне дзвюх плыней (расейскай і беларускай) не вырашае праблемаў беларусізацыі ВНУ. Іх існаванне мэтазгодна толькі на пераходным перыядзе (на працягу 2—3 год) да поўнага пераводу выкладання на дзяржаўную мову.

**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**

## *Сацыялагічнае даследаванне*

### "МЫ ЛЮБІМ РАДЫЁ..."

У перыяд з 14 па 20 снежня 1992 года беларуская служба "Грамадская думка" па заказу Саюза "Інтэлект" правяла апытанне насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Вывучана думка 877 рэспандэнтаў, якія прадстаўляюць усе асноўныя сацыяльна-дэмаграфічныя групы. Памылка выбаркі склала 2,7 працэнта.

Былі зададзены наступныя пытанні:

I. Якія інфармацыйна-музычныя праграмы выклікаюць у Вас найвялікшую цікавасць?

| | |
|---|---|
| 1. Радыёстанцыя "Маяк" | 15,9 %; |
| 2. Маладзёжны канал радыёстанцыі "Юнацтва" | 18,2 %; |
| 3. "Радыёфакт" | 18,6%; |
| 4. "У абедзенны перапынак" | 18,3 %; |
| 5. "Еўропа плюс" | 16,4 %; |
| 6. "Радыё-рокс" | 6,0 %. |

Называліся таксама музычныя праграмы:

| | |
|---|---|
| "Жадаю Вам" | 2,9 %; |
| "Блакітны вагон" | 2,2 %; |
| "Актава" | 1,4 %. |

II. Як Вы лічыце, ці патрэбна ў нашай рэспубліцы радыёстанцыя, зместам вяшчання якой была б інфармацыйна-музычная тэматыка?

| | |
|---|---|
| 1. Так, такая радыёстанцыя патрэбна | 81,3 %; |
| 2. Не, дастаткова тых, якія існуюць зараз | 7,4 %; |
| 3. Цяжка сказаць | 11,3 %. |

III. Ці аддалі б Вы перавагу праграмам радыёстанцыі "Еўропа плюс Мінск", вытрыманай у класічных рамках папулярнай музыкі пры ўмове змяшчэння інфармацыі пра апошнія навіны?

| | |
|---|---|
| 1. Мяркую, так | 51,9 %; |
| 2. Мяркую, не | 11,7 %; |
| 3. Цяжка сказаць | 36,4 %. |

*Сенсацыя — толькі так можна назваць перамогу на парламенцкіх выбарах у Літве Дэмакратычнай партыі працы, якую ўзначальвае былы першы сакратар ЦК КПЛ Альгірдас-Мікулас Бразаўскас. І вось цяпер, калі новы старшыня сейма Літвы наведаў Беларусь (дарэчы, гэта быў яго першы замежны візіт у якасці першай асобы дзяржавы), стала магчымым з першых вуснаў даведацца аб яго пазіцыі ў адносінах да праблем развіцця літоўскай дзяржавы, яе ўнутранай і знешняй палітыкі.*

## АЛЬГІРДАС БРАЗАЎСКАС:

# "УЛАДА ПЕРАЙШЛА ДА НАС ВЕЛЬМІ ПРЫГОЖА"

Вялікім упушчэннем назваў старшыня сейма Літвы тое, што паміж дзвюма дзяржавамі няма пакуль што дыпламатычных адносін. Што датычыць пытанняў, якія ўзнімаліся пад час сустрэч Бразаўскаса з беларускім кіраўніцтвам, дык гэта пытанні ў асноўным эканамічныя — аб тавараабмене, аб пастаўках энергіі... Станіслаў Шушкевіч, які таксама ўдзельнічаў у прэс-канферэнцыі, адзначыў, што размова пойдзе аб больш празрыстай мяжы паміж Літвой і Беларуссю, што нашаму бліжэйшаму суседу будзе прадастаўлены рэжым найбольшага спрыяння ў эканоміцы. "Мы зайздросцім спосабу, з дапамогай якога ўлада ў Літве перайшла да апазіцыі. Гэта дэмакратычны, канстытуцыйны спосаб. І мы рады вітаць спадара Бразаўскаса ў якасці кіраўніка дзяржавы, з якой Беларусь заўсёды мела самыя цесныя сувязі", — заявіў Старшыня беларускага парламента.

Альгірдас Бразаўскас у сваім выступленні абверг тых, хто палічыў, што быццам бы ўлада ў Літве перайшла да камуністаў. ДППЛ, якая мае зараз 74 з 141 месца ў літоўскім парламенце, самая вялікая і самая арганізаваная партыя ў Літве. Яе гісторыя пачалася тады, калі ўвосень 1989 года на з'ездзе КПЛ частка камуністаў вырашыла выйсці з КПСС. І цяпер Дэмакратычная партыя працы — арганізацыя сацыял-дэмакратычнага накірунку. У яе прыйшлі новыя людзі. Партыю прызналі сацыял-дэмакраты 12 краін, яна мае трывалыя сувязі з сусветным сацыял-дэмакратычным рухам. Як заяўляе Бразаўскас, ДППЛ не ўзурпіруе ўладу, яна за тое, каб кіруючыя органы былі ў першую чаргу кампетэнтнымі.

14 лютага адбудуцца прамыя прэзідэнцкія выбары. Кандыдаты на вышэйшую пасаду рэспублікі яшчэ не вылучаны, але можна зрабіць прагноз, што і Бразаўскас, і Ландсбергіс не толькі будуць прымаць удзел у выбарах, але і набяруць большую колькасць галасоў.

Не прыходзіцца сумнявацца, што найбольш вострa паўстане пытанне аб зямельнай рэформе ў Літве. Тым больш, што якраз зараз праблема ўласнасці на зямлю паўстала і ў нас на Беларусі. Гавораць, што Літва дажыла да сапраўднага голаду, і, маўляў, калі ўжо ў гэтай краіне з яе багатымі фермерскімі, хутарскімі традыцыямі зямельная рэформа "не пайшла", дык што ж казаць пра Беларусь... Спадар Бразаўскас заявіў, што законы аб зямельнай рэформе, прынятыя ў жніўні 1991 года, мелі выключна палітычныя мэты: ліквідаваць калгасны лад як рудымент сацыялізму. 1 красавіка 1992 года калгасы і саўгасы Літвы спынілі сваё існаванне. Але дзе ж тая новая сельскагаспадарчая структура, без якой немагчыма не толькі развіццё сельскай гаспадаркі, але і само яе існаванне? Як адзначыў госць Беларусі, працэс змены сельскагаспадарчага ладу павінен доўжыцца гадамі, і дзяржава павінна стварыць для гэтага наступныя ўмовы: выдзеліць велізарныя крэдыты, забяспечыць фермераў тэхнікай, пабудаваць новыя хутары. Справа ў тым, што большасць сялян цяпер жыве менавіта не на хутарах, а ў буйных сёлах — з 360 тысяч хутароў, якія былі ў Літве да сацыялістычнай зямельнай рэформы, не засталося і трэцяй часткі... Што ж датычыць пытання ўласнасці на зямлю, дык закон прадугледжвае вяртанне большасці зямлі былым уласнікам, нягледзячы на тое, дзе яны жывуць — у горадзе ці на сяле. Як аказалася, дзве трэці калгаснікаў сёння альбо наогул не маюць права на зямельную ўласнасць, ці не маюць права на зямлю ў тым калгасе, дзе яны працавалі ўсё жыццё.

Вынік разбурэння калгасаў, знішчэння ўстойлівай інфраструктуры сельскай гаспадаркі ў Літве — падзенне ўраджайнасці, пагалоўя жывёлы, запасаў кармоў... у 2 разы! Старшыня сейма Літвы адзначыў, што нельга ігнараваць аб'ектыўныя законы эканомікі, гаспадарання. Што ж рабіць далей? Ствараюцца нейкія "таварыствы", з 1200 калгасаў і саўгасаў іх створана прыкладна 12 тысяч. Ці выйсце гэта? Некантралюемая прыватызацыя знішчае частку аграсервісу — новымі ўласнікамі перапрафілююцца арганізацыі, якія займаліся рамонтам сельгастэхнікі, забеспячэннем сельскай гаспадаркі матэрыяльнымі рэсурсамі. Такім чынам, у спадчыну новай "камандзе" застаўся суцэльны развал сельскай гаспадаркі Літвы. У выніку непрадуманых палітычных рашэнняў старога парламента вельмі шмат сялян прагаласавала цяпер за Дэмакратычную партыю працы Літвы.

На прэс-канферэнцыі карэспандэнт "Праўды" прыгадаў, што калісьці літоўскія калгасы стваралі значна больш прадукцыі на душу насельніцтва, чым ЗША і іншыя краіны Захаду. Бразаўскас здзіўлена пацiснуў плячыма: Літва Захад ніколі не абганяла, у яе сельскай гаспадарцы быў сярэднееўрапейскі ўзровень вытворчасці. Тым больш, што вытворчасць гэтая была больш працаёмкай, чым на Захадзе, якасныя паказчыкі — нізкія, асартымент малы. Канешне, аб'ёмы вытворчасці нельга параўнаць з цяперашнімі...

На пытанне аб перспектывах супрацоўніцтва з СНД Альгірдас Бразаўскас заявіў, што не бачыць падстаў для ўваходжання Літвы ў Садружнасць. Такі саюз павінен штосьці даваць сваім членам, а калі яны аддзяляюцца адзін ад аднаго мытнямі, вядуць разлікі па сусветных цэнах, ствараюць адзін аднаму фінансавыя цяжкасці... якая карысць ад такой садружнасці?

Старшыня сейма Літвы заўважыў, што ніякіх праблем з дзяржаўнымі межамі паміж Літвой і Беларуссю няма. Гэта было заяўлена катэгарычна і недвухсэнсава. Што ж датычыць пытання аб вывадзе расійскіх войскаў з тэрыторыі Літвы, дык існуе парадак і графік вываду, разлічаны да жніўня 1993 года. Пакуль Бразаўскас у гэтым пытанні таксама не бачыць асаблівых праблем.

Нам усім цікава было ведаць, у якіх адносінах зараз парламенцкая большасць ДППЛ з былой парламенцкай большасцю ("Саюдзісам"), які стаў цяпер апазіцыяй. Спадар Бразаўскас здзівіў нас тым, што не дапусціў дрэннага слова ў адрас былых дзяржаўных лідэраў (мы ж прызвычаіліся да таго, што менавіта на "былых" скідваюць усе грахі...). Ён адзначыў, што ўлада перайшла да ДППЛ вельмі прыгожа, сапраўды дэмакратычна. Дарэчы, Вітаўтусу Ландсбергісу Бразаўскас асабіста прапанаваў пасаду намесніка старшыні сейма. Былы літоўскі лідэр ад гэтага адмовіўся і цяпер фарміруе апазіцыю.

Кіраўнік Літвы перасцярог беларусаў ад павярхоўнага падыходу да такіх надзённых праблем, як сельскагаспадарчая рэформа, прыватызацыя, параіў пазбягаць палітычнай упартасці.

Рана выказваць нейкія прагнозы аб далейшых кроках новага літоўскага парламента. Але хацелася б адзначыць, што яго кіраўнік паказаў сябе амаль што самым дальнабачным з усіх палітычных лідэраў былога Савецкага Саюза. На жаль, я не паспеў задаць спадару Бразаўскасу пытанне, якое вельмі цікавіць зараз усіх: як ён ставіцца да раздзялення правоў чалавека і правоў грамадзяніна? Ці ўтульна будуць адчуваць сябе на літоўскай зямлі нашы суайчыннікі — беларусы? Ва ўсялякім выпадку, у супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў ёсць будучыня.

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

## Дайджэст

*Летува*

### ВОЙСКА ВЫВОДЗІЦЦА, АЛЕ...

Упаўнаважаны ўрада Летувы па пытаннях вываду расійскіх войск сп.Стасіс Князіс лічыць, што "вывад расійскіх войск з Летувы выконваецца, але не без затрымак". На яго думку, галоўнай пагрозай зрыву графіка застаецца 3-я дывізія берагавой аховы, дыслацыраваная ў Клайпедзе. Згодна з графікам вываду войск, першы полк павінен быць выведзены напрыканцы снежня. Аднак, паводле слоў сп.С.Князіса, вайскоўцы не збіраюцца пакідаць Летуву. Ён лічыць, што гэта звязана не з палітычнымі ўстаноўкамі, а з вайсковымі праблемамі, у прыватнасці з няпэўнасцю далейшага лёсу дывізіі. Разам з тым 3-я дывізія ўжо пачала перадачу ваенных аб'ектаў летувіскаму боку. У падпарадкаванне Летуве перайшлі некаторыя аб'екты ў Клайпедзе, да перадачы падрыхтаваны ваенны палігон у Кайрэнай ды танкадром каля Цельшай.

BNS

### АДМЕНЕНА ПРАМОЕ КІРАВАННЕ

У Віленскім і Шальчынінскім раёнах пасля працяглага перыяду прамога кіравання, які быў уведзены пасля жнівеньскіх падзей 1991 года, прайшлі выбары ў раённыя Саветы. Яны праводзяцца ў адпаведнасці з законам Летувы аб выбарах дэпутатаў у органы мясцовага самакіравання.

### ДАПАМОГА ДЗІЦЯЧАГА ФОНДУ

У Летуву паступіла дабрачынная дапамога ад швейцарскай фірмы "Нестле" – 7,5 тоны прадуктаў для дзяцей на Каляды. Груз даставілі прадстаўнікі французскіх скаўтаў, а прыняла яго намеснік старшыні Летувіскага дзіцячага фонду сп.Рома Навікайтэ.

"Эхо Литвы"

### БАЛТАСКАНДЫЯ?

Сённяшняя Летува таксама павінна планаваць сваю стратэгію бяспекі... Хаўрус балтыйскіх краін, зразумела, пасля ўходу з іх расійскіх войскаў паклаў бы добры пачатак найпрасцейшаму, хаця б экалагічнаму (праблема забруджвання Балтыі), асацыятыўнаму хаўрусу – Балтаскандыі.

"Vitis"

### МВФ — НЕ АКУЛА

У Летуве гасціла групоўка прадстаўнікоў Міжнароднага валютнага фонду. Сёлета ён выдаткуе рэспубліцы крэдыт у 82 млн. даляраў.
"TIESA".

*Украіна*

### РУХ ЗА ЎКРАІНІЗАЦЫЮ

Чарнігаўскае аддзяленне Руху ў тэлеграме Старшыні ВС сп.Івану Плюшчу выказала падтрымку міністру абароны сп.Канстанціну Марозаву. Аўтары тэлеграмы пратэстуюць супраць арганізаванага дэпутатамі-сацыялістамі збору подпісаў пад патрабаваннем аб адстаўцы К.Марозава. Сацыялістычная партыя, лічаць аўтары тэлеграмы, незадаволена палітыкай украінізацыі, якая праводзіцца Міністэрствам абароны рэспублікі ў войсках.

У той жа дзень Сумская арганізацыя Руху прыняла заяву, у якой выказана заклапочанасць актывізацыяй "антыўкраінскай дзейнасці асобных сепаратысцкіх груповак і шавіністычна настроеных асоб". У гэтым абвінавачваюцца газеты "Возрождение" і "Предприниматель".

*Казахстан*

### ЯДЗЕРНАЯ ЗБРОЯ ПРАДАВАЦЦА НЕ БУДЗЕ

Урад Казахстана абверг заяву афіцыйных структур Егіпта пра планы Алма-Аты прадаць ядзерную зброю за мяжу, якія быццам бы мелі месца.

*Чачня*

### БЯССЛАЎНЫ КАНЕЦ СЛАВУТАГА КАМІТЭТА

Прэзідэнт Джахар Дудаеў прыпыніў дзейнасць следчага камітэта рэспублікі "з-за яго нізкай эфектыўнасці і шматлікіх парушэнняў крымінальна-працэсуальнага заканадаўства".

*Азербайджан*

### КРЭДЫТ У МІЛЬЯРД ДАЛЯРАЎ

Рашэнне аб выдаткаванні крэдыту прынята на сустрэчы ў Тэгеране сустрэчы кіраўнікоў Ісламскага банка развіцця. Вырашана таксама выдаткаваць бязвыплатную дапамогу ў 1,5 млн. даляраў бежанцам-азербайджанцам, паведамляе газета "Азадлыг". Міністр фінансаў Азербайджана сп.Салех Мамедаў абраны сябрам прэзідыума ІБР.



## Мы адкажам на ўсе вашы пытанні. Тэлефануйце: 32-13-04



### "ЁЛКІ-ПАЛКІ, ЛЕС ГУСТЫ..."



*"Напішыце, калі ласка, колькі ёлачных базараў будзе сёлета ў Мінску, за колькі можна набыць ёлку. І якія штрафы за самавольную высечку?*

А.КАРПАЎ, г.Мінск."




Як паведамілі ва ўпраўленні гандлю, з 24 снежня ў Мінску працуюць 13 ёлачных кірмашоў. Здаецца, гэта дастаткова для таго, каб зялёная госця прыйшла ў кожную кватэру. Кошт ёлкі ад 150 да 300 рублёў. Ён залежыць ад выдаткаў на перавозку (дрэвы пастаўляюць для Мінска 5 лясгасаў, якія знаходзяцца на рознай адлегласці ад горада) і, зразумела, ад памераў ёлкі. І яшчэ. Да ўвагі тых, хто збіраецца прынесці да сябе ў хату навагоднюю прыгажуню "на халяву". Як паведамілі з УУС Мінгарвыканкама, за самавольнае высяканне ёлак устаноўлены штраф у 2300 рублёў.

### У ІЗРАІЛЬ ЗВАНІЦЬ НАКЛАДНА...



*"Колькі зараз каштуе тэлефонны званок у замежную краіну?*

Э.ЖАРОЎСКАЯ, г.Мінск".



Як паведамілі нам у Міністэрстве сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь, з 16 снежня пачалі дзейнічаць новыя тарыфы на міжнародныя тэлефонныя перагаворы (яны выраслі прыкладна ў тры разы). Так, зараз кошт адной хвіліны размовы з абанентам еўрапейскай краіны складае 145 рублёў, а азіяцкай — 190. Чамусьці толькі тэлефонны званок у Ізраіль абыдзецца даражэй — у 290 рублёў. Столькі ж трэба заплаціць і за хвіліну размовы з ЗША і Канадай.

Тыя, каму неабходна патэлефанаваць у прыбалтыйскую дзяржаву, павінны за адну хвіліну выкласці 70 рублёў. А ў краіны СНД званіць пакуль што можна па старых тарыфах.

### ВЯРТАННЕ "БЛУДНЫХ СЫНОЎ"



*"Паведаміце, калі ласка, як зараз абстаяць справы з вяртаннем афіцэраў-беларусаў на радзіму?*

С.СЁМІКАЎ, г.Мінск."



Як паведамілі ў Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь, амаль 25 тысяч (!) афіцэраў падалі рапарты з просьбай перавесці іх у нашу рэспубліку з розных рэгіёнаў былога СССР і груп войск у Еўропе. Больш як 13 тысяч з іх жадаюць працягваць вайсковую службу пад бела-чырвона-белым сцягам.

3 мая па кастрычнік пераведзена ўжо на беларускую зямлю звыш пяці тысяч чалавек (для параўнання адзначым, што 2176 афіцэраў пераявіліся за гэты ж перыяд з Беларусі ў арміі іншых дзяржаў СНД ).

У наступным годзе Міністэрства абароны РБ плануе прыняць і ўладкаваць 4730 афіцэраў, сярод якіх амаль тры тысячы выпускнікоў ваенных навуковых устаноў з блізкага замежжа.

### ШКЛЯНЫ ЛАБІРЫНТ



*"Час ад часу прыходзіцца здаваць шклатару, аднак у апошні раз я быў здзіўлены новымі расцэнкамі. Раскажыце, калі ласка, ці ёсць тут нейкія змены.*

М.КУПРАШ, Брэст".

Змены ёсць. Пастановай Дэпартамента цэн пры Дзяржэканомплане Рэспублікі Беларусь зацверджаны прэйскурант новага кошту шклатары. Калі раней бутэлькі каштавалі ў залежнасці ад ёмістасці, то цяпер іх яшчэ падраздзяляюць па мэце прызначэння: з-пад піва, мінеральнай вады, сокаў — 15 рублёў, а з-пад віна, гарэлкі каштуе 20 рублёў.

У прэйскуранце фігуруюць такія паняцці, як "еўрабутэлька", нейкая бутэлька "венчык гарлавінай пад вінтавую ўкупорку..." Асобна пералічаны слоікі з указаннем кошту ў залежнасці ад ёмістасці. Самы маленькі з-пад гарчыцы каштуе 3 рублі, 10-літровы — сорак.

Словам, не маючы пад рукой пераліку ў кошце і назваў, лёгка заблытацца. Таму можна параіць, каб патрабавалі прэйскурант пры здачы посуду ў крамах.



### ЛЕПЕЙ ПІЦЬ ЧЫСТУЮ ВАДУ



*"Адкуль з'явілася растваральная кава?*

В.КОЗІК, Лагойск",



Растваральная кава вельмі папулярны прадукт. Але ці ведаеце вы, што нават яе стваральнік — швейцарскі хімік Макс Маргенталер — сцвярджае, што растваральная кава ў дзесяткі разоў горшая за каву, згатаваную з молатых зярнят, і што лепш ужо піць чыстую ваду. Праўда, апошнюю цяпер таксама цяжка знайсці, як і растваральную каву па дзяржцане.

### РЫМЛЯНЕ КРЫЖАВАНКУ ВЕДАЛІ? А ЯК ЖА!



*"Чуў, што звычайная крыжаванка мае вялікую гісторыю. Няўжо ёй і сапраўды сотні гадоў?*

А.ЗАЙЦАЎ, Пінскі раён."

Так, сапраўды крыжаванка прыйшла да нас з далёкіх часоў. Існавала яна яшчэ ў антычныя гады. Напрыклад, пры раскопках рымскага паселішча Карыніум у 1868 годзе на адной з пліт было выяўлена нейкае падабенства крыжаванкі. Пліта датавана III—IV ст.ст. нашай эры. У



1936 годзе такую ж крыжаванку знайшлі высечанай на калоне ў Пампеях.

Стваральнікам першай сучаснай крыжаванкі быў Артур Уін, які эміграваў у Нью-Йорк з Ліверпуля. Яго крыжаванка з'явілася ў газеце "Нью-Йорк геральд" 21 снежня 1913 года.

А 12 мая 1929 года крыжаванка прыйшла ў СССР. Менавіта ў гэты дзень часопіс "Огонёк" надрукаваў сваю першую крыжаванку.

### МАНАХІ — НЕ БЮРАКРАТЫ



*"Як трапіць у манастыр на пастаяннае месца жыхарства?*

В.АСТАПУК, Брэсцкая вобл."

Як паведамілі ў Беларускім экзархаце, чалавек, у якога ўзнікла падобнае жаданне, павінен выбраць які-небудзь манастыр, паехаць туды, пажыць, паназіраць за жыццём у ім. Калі ж не перадумаеце, то трэба напісаць прашэнне на імя ігумені манастыра. І не трэба ніякіх характарыстык, рэкамендацый і г.д. Адным словам, бюракратычным апаратам там і не пахне.



На пытанні адказвалі Паўлюк БЫКОЎСКІ, Сяргей ВІШНЕЎСКІ, Франц ЛЯВІЦКІ.



# КуКуруза № 2"

## "БЛАКІТНАЯ МАРА" М.С.ХРУШЧОВА ЗДЗЯЙСНЯЕЦЦА

Беларусь атрымлівае з-за мяжы прадукты соевай апрацоўкі: алей, бялковыя канцэнтраты, соевую муку, без якіх цяжка ўявіць вытворчасць дзіцячага харчавання і большасці кулінарных вырабаў. У сувязі з усё большымі патрэбамі ў раслінным бялку для харчавання чалавека і ў якасці неабходных кампанентаў кармавых рацыёнаў жывёлы і птушак, для медыцыны і тэхнічных мэтаў з кожным днём расце значэнне шырокага выкарыстання соі. Утрыманне бялку ў яе насенні дасягае 50 працэнтаў, тлушчу — 25 і вышэй. Па багаццю і якасці прыроднага комплексу бялкоў, тлушчаў, вугляводаў, мінеральных соляў, вітамінаў і іншых біялагічна каштоўных рэчываў соя значна лепей за мноства іншых прадуктаў расліннага і жывёльнага паходжання.

Усё гэта добра, але...

Але соя набываецца нашай краінай з-за мяжы і, вядома, за СКВ, ды пакуль даходзіць праз усе мытні да беларускага "волата"-заказчыка, яе кошт з першай касмічнай хуткасцю перасягае арбіту яго магчымасцей і ў выніку закупкі скарачаюцца...

Аднак, як часта бывае ў нашай краіне недабудаванага камунізму, энтузіясты-аматары парупіліся за дзяржаўныя інтарэсы замест дзяржаўных мужоў ды стварылі сорт "Вілія", які можна культываваць на тэрыторыі Беларусі, у адрозненне ад няўдалых спроб інтрадукцыі соі у рэспубліцы, што былі зроблены ў 30-я і 60-я гады, калі без навуковага падыходу выкарысталі не селекцыянаваныя для нашых умоў сарты.

Праца па стварэнню формаў соі, прыдатных для эканамічна рэнтабельнага выкарыстання на тэрыторыі Беларусі, была распачата ў 1979 г. На аснове вывучэння тысяч ранне- ды ўльтраранняспелых формаў з калекцыі УІР і іншых селекцыйных установаў, стварэння ды прапрацоўкі вялікай колькасці гібрыднага матэрыялу былі створаны сарты, якія выспяваюць у сярэдзіне—канцы верасня, здольныя фарміраваць ураджай у 20—25 ц/га і вышэй пры ўтрыманні бялку 40 працэнтаў і алею 20 працэнтаў.

Яны былі прапанаваныя калгасам, і на атрыманыя грошы стала магчымым існаванне гасразліковага гуртка пры Інстытуце генетыкі і цыталогіі Рэспублікі Беларусь. Далейшая селекцыя працягвалася агульнымі намаганнямі гуртка і школьнікаў. А дзяржава ўсё яшчэ вагалася, што лепей— набываць ці выпрацоўваць?

Сёлета на базе вышэйназванага гуртка створана фірма, якая сваёй мэтай ставіць атрыманне новых сартоў, прапаганду і распаўсюджванне соі ў сельскай гаспадарцы Рэспублікі Беларусь. "Соя-Поўнач" не толькі перадае насенне ды тэхналогію вырошчвання соі, але і сама курыруе пасевы. Ціха, без мітынгаў і гучных дэкларацый, да якіх мы ўжо прызвычаіліся за апошнія год-два, энтузіясты-генетыкі без усялякай падтрымкі дзяржавы працуюць на будучыню незалежнай Беларусі.

Соя настолькі поўна выкарыстоўваецца, што практычна не мае адходаў, пры гэтым яе народнагаспадарчае значэнне памнажаецца з павышэннем комплекснасці і разнастайнасці перапрацоўкі.

Сою сеюць у многіх краінах на ўсіх кантынентах і цяжка назваць краіну, незацікаўленую ў яе вырабе ці выкарыстанні. У сувязі з тым, што насельніцтва зямнога шара ўвесь час павялічваецца, а колькасць зямлі ў сярэднім на аднаго чалавека скарачаецца, усё больш актуальнай становіцца праблема замяняльнікаў натуральных сельскагаспадарчых прадуктаў. Паводле звестак Інстытута харчавання Цэнтральнай Амерыкі ды Панамы, ні адна сельскагаспадарчая культура за апошнія гады не прыцягвала столькі ўвагі да сваёй харчовай вартасці, як соя. Попыт на соевы пратэін у свеце штогод павялічваецца на 8—10 працэнтаў. На базе соевага бялку ствараюцца мясныя аналагі ды напаўняльнікі ў мясцовых прадуктах. Напрыклад, у ЗША такія штучныя аналагі мяса складаюць каля 20 працэнтаў усіх мясных прадуктаў. У краінах Заходняй Еўропы выкарыстанне замяняльнікаў мяса дасягае 2,8 млн. т , а аналагаў малочнай прадукцыі — 3 млн. т.

У нас жа быццам і праблем ніякіх няма: валавое (разам з касцямі, напэўна?) выкарыстанне мяса на душу насельніцтва большае, чым ва ўсім свеце, дабрачынная дапамога з гэтага самага свету на самай буйной бясплатнай аўтастаянцы сталіцы, што побач з Домам урада... У каго дабро вядзецца, у таго й певень нясецца, а мы й люльку ў зубах знайсці не здольны.

Паўлюк БЫКОЎСКІ.

## Эканамічны пасьянс

*Украіна*

### РУБЛІ МОЖНА ЗАВОЗІЦЬ І ВЫВОЗІЦЬ

Прэм'ер-міністр сп.Леанід Кучма абнародаваў рашэнне аб зняцці абмежаванняў на ўвоз і вываз з Украіны расійскіх грошай.

*Латвія*

### ДАНІЯ ЗГОДНА ФУНДАВАЦЬ ВЫВАД ВОЙСКАЎ

Як паведаміла Латвійскае тэлебачанне, Данія гатова дапамагчы расейскім войскам, што выводзяцца з краін Балтыі. На гэтыя мэты яна згодна выдаткаваць 50 млн.крон.

*Расія*

### ЛІКВІДАЦЫЙНЫ ТАНКАВЫ ЦЭНТР

Надоечы ў раёне Петрадварца на былым ваенным заводзе № 20 створаны ліквідацыйны танкавы цэнтр. З машын знімаюць зброю, рухавікі, оптыку, электроніку ды паказваюць замежным назіральнікам. Пасля праверкі танкі ператвараюць у метала лом і адпраўляюць на пераплаўку ў Чарапавец.

*Эстонія*

### ГАЛАДОЎКА Ў СІЛЛАМЯЭ

У Сілламяэ прайшла галадоўка работніц завода "Электратэхніка", выкліканая тым, што працаўнікам гэтага прадпрыемства са жніўня не выдавалася зарплата.

У Нарве адбыўся сход рабочых горада, удзельнікі якога адхілілі прапанову ўрада аб часовай працы ў мэтах барацьбы з беспрацоўем. Рабочыя патрабавалі ад гарадской рады Нарвы вырашыць праблемы беспрацоўных. На сходзе таксама вылучана прапанова аб прадастаўленні Нарве і ўсёй паўночна-ўсходняй частцы Эстоніі асаблівага статуса. Горад наведалі міністры ўнутраных спраў і сацыяльнага забеспячэння Эстоніі. На іх думку, у Нарве існуюць толькі сацыяльныя праблемы, а не палітычныя.

*Расія.*

### АДМОУЛЕНА У ІСКУ

Арбітражны суд адмовіў Арлоўскаму аддзяленню Федэрацыі незалежных прафсаюзаў Расіі ў іску да кіраўніка адміністрацыі Арлоўскай вобласці сп.Мікалая Юзіна, які адмяніў абавязковае ўтрыманне з зарплаты сяброўскіх прафсаюзных статкаў.

*Азербайджан*

### ЗАКОН АБ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

Вярхоўным Саветам прыняты ў першым чытанні закон аб прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў. Больш як 30 тысяч прадпрыемстваў падзелены на 5 катэгорый: непрыватызуемыя прадпрыемствы жыццёвай неабходнасці (абаронныя, паліўна-энергетычныя, тэлебачанне ды аўтатранспартныя), прыватызуемыя па спецыяльнаму дазволу ўрада, па дазволу міністэрстваў, мясцовых улад і без усялякіх умоў.

*Татарстан*

### ПАСТАЎКІ НАФТЫ

Падпісана дамова паміж Татарстанам і Летувай аб гандлёва-эканамічным, навукова-тэхнічным ды культурным супрацоўніцтве. Віцэ-прэм'ер Летувы сп.Браніслаў Лубіс ды прэм'ер-міністр Татарстана сп.Мухамат Сабіраў правялі прэс-канферэнцыю, дзе было абвешчана, што Летува дае Татарстану магчымасць карыстацца марскім портам у Клайпедзе. Паводле яго слоў, Летува таксама згодна перапрацоўваць татарскую нафту ды пастаўляць у Татарстан тавары народнага спажывання. Прэм'ер-міністр сп.М.Сабіраў паведаміў, што Татарстан штогодна будзе пастаўляць Летуве паўтара мільёна тон нафты.

*Расія*

### СТРАЙК У ЛАЗНЯХ І ПРАЛЬНЯХ

Працаўнікі лазнева-пральных камбінатаў Кустаная правялі тыднёвы страйк. Галоўнае патрабаванне — трохразовае павелічэнне зарплаты.



## ЗАВЯДЗІЦЕ НА ЖУРФАКУ КАТА І НАЗАВІЦЕ ЯГО УЛАСНЫМ КАРЭСПАНДЭНТАМ!

Здавалася, яны непрыстойна маладыя. Маладыя для журналістыкі, для таго, каб паспрабаваць сказаць новае, паспрабаваць заўважыць непрыкметнае і напісаць. Але калі ў рукі трапіў першы стос матэрыялаў – гэта былі невялікія пісьмовыя разважанні – стварылася ўражанне, што іх аўтарам гадоў па трыццаць. Яны сёння – госці "ЧЗ".

Старшакласнікі. Яны прыходзяць па аўторках на факультэт журналістыкі, займаюць чатырыста пятую і паслухмяна кладуць на парты паперу і ручкі. У самым пачатку навучальнага года многія з іх свята верылі, што ў Школе юнкораў можна навучыцца пісаць. Цяпер такіх няма. Тыя, хто застаўся (а гэта прыкладна палова), на першы погляд вельмі самаўпэўненыя і дзёрзкія. Але на самай справе яны проста крыху іншыя і больш арыгінальныя, чым іх шматлікія аднагодкі. Яны – юнкоры. А гэта для журналістыкі ўжо нешта. Так як пішуць у іх узросце, на жаль, не пішуць ужо больш ніколі.

Пакуль, напэўна, самая прамая сувязь юнкораў і студэнтаў ляжыць праз надпісы на партах: "Не спі, юнкор, студэнтам будзеш!", "А вы завядзіце на журфаку ката і назавіце яго Уласным карэспандэнтам"... Але будзьце ўпэўнены, што калі праз год або два на журфаку з заміраннем будуць вымаўляць чыё-небудзь імя, то гэта абавязкова будзе імя студэнта, які прайшоў некалі праз ганаровае званне "юнкора".

**Ігар САКАЛОЎ**, кіраўнік Школы юнкораў пры факультэце журналістыкі.

## ЖУРНАЛІСТЫ – АДЗІНОКІЯ ЛЮДЗІ З ШАРЭЮЧЫМІ ВАЧАМІ

Прывітанне, журфак, шэрая пабудова без калон, з двума кіёскамі побач, якія апанаваны пачуццямі нацыянальнай годнасці і патрыятызму, і па гэтай прычыне афарбаваны ў нацыянальныя бела-чырвоныя колеры. Прывітанне, лесвіца з 79 прыступак, якая вядзе на чацвёрты паверх. Прывітанне, усе тыя, каго абазвалі юнкорамі за такі пяшчотны ўзрост, напэўна. Прывітанне, усім тым, хто так нас абзывае. Прывітанне!

Сёння — восень сярод зімы, і таму практычна невылечная хвароба з дзіўнай назвай "пастаяннае чаканне вясны" прагрэсіруе. Ёсць людзі, у якіх яна хранічная, а ёсць тыя, хто яе сабе проста прыдумаў для таго, каб прагуляць школу або з нейкай іншай мэтай. Усе тыя людзі, да якіх я належу, хварэюць з нараджэння і ў самай цяжкай форме. Таму здарова, што ёсць на свеце журфак, які можна скарыстоўваць хоць бы ў якасці ўкрыцця ад асенне-зімовага дажджу (хай нават і ў літаральным сэнсе).

Восень і шэры будынак з шурпатай паверхняй, у якім усе — ад вахцёра да апошняга студэнта — знаходзяцца ў перадгрыпозным стане. Ці гэта не жудасна?!

Вы не заўважалі, што восенню (а асабліва зімовай) у людзей шарэюць вочы? Напэўна, гэта ад таго, што за хамелеоністай зменлівасцю ў чалавека цяжка разгледзець ружу, якую хоць бы зрэдку неабходна закрываць шкляным каўпаком ад злосных і калючых скразнякоў. І ў людзей шарэюць вочы, а называецца гэты працэс "ахоўная рэакцыя арганізма на дзеянне знешніх раздражняльнікаў".

Людзі ўсяму паспелі прыдумаць назву, словамі можна апісаць пачуцці, думкі, гучанне музыкі. Учынкі, адчуванне, адзіноцтва, каханне, абыякавасць — усё-усё можна перадаць словамі. Напэўна, таму ў людзей, якія жывуць словамі, часта сустракаюцца шэрыя вочы. У журналістаў жыццё пастаянна звязана са словамі, таму ім цяжэй захаваць свой сапраўдны колер вачэй. І, напэўна, менавіта таму будынак журфака такі шэры, хоць гэта можна растлумачыць і больш простай прычынай.

Кожны дзень у гэта памяшканне без наяўнасці архітэктурных лішкаў прыходзяць людзі, якія хварэюць адзіноцтвам. Людзі наогул вельмі адзінокія стварэнні, адзінокія ў сваім імкненні ад яго пазбавіцца. А журналісты, напэўна, адзінокія ўтрая, бо вельмі сумна адчуваць адзіноцтва сярод добрых людзей.

Кожны дзень тыя журналісты, якія пачынаюць (прадаўжаюць, заканчваюць), прыходзяць вучыцца?.. пераймаць вопыт?.. не ведаю, мне цяжка сфармуляваць. Мне цяжка ўявіць сабе, чаму можна вучыць чалавека, які ўжо ў школе вывучыў алфавіт, навучыўся пісаць і нават засвоіў некаторыя граматычныя правілы. Напэўна, застаецца зусім няшмат, а менавіта: навучыць чалавека ўсяму. Але ці можа хто-небудзь навучыць гэтаму чалавека, акрамя яго самога. Не ведаю. Таму я вырашыла звярнуцца з падобнымі пытаннямі да шырокіх мас. Па праведзенаму мной апытанню навакольнага насельніцтва, журфак характарызуюць як адно з самых прэстыжных таварыстваў вольных мастакоў, а пасля пастаноўкі пытання "дзе б ні вучыцца, толькі б не вучыцца", насельніцтва непазбежна называе журфак, прычым адразу ж папярэджвае, што туды практычна не паступіць. Па-мойму, даволі дзіўная характарыстыка.

І напэўна, менавіта з-за любві да дзівацтваў я раз у тыдзень прыходжу ў так званую "школу юнкораў" вучыцца?.. пераймаць вопыт?.. не ведаю, мне зноў жа складана сфармуляваць. Але я прыходжу ў гэты шэры будынак, падымаюся па прыступках на чацвёрты паверх, кажу ўсім: "Прывітанне!" — можа нават для таго, каб калі-небудзь замест свайго адлюстравання ў люстэрку, убачыць вельмі адзінокага чалавека з шэрымі вачамі.

**Маша КОШКІНА**, адзінаццацікласніца.

## АСТРАЛОГІЯ, РЭКЛАМА І ... ШКОЛЬНАЯ ПРАГРАМА

*Вы ніколі не думалі, чаму Раскольнікаў усё ж забіў старую-працэнтшчыцу?*

*А прычына простая — у яго пакоі была вельмі нізкая столь.*

*Не бачыце сувязі? Растлумачваю: паводле сцвярджэння астролагаў, у чалавека, акрамя матэрыяльнага, ёсць астральнае цела, якое размешчана ў яго над галавой. Якраз яно і адчувае на сабе націск столі пакойчыка пад дахам. Падобныя абыякавыя адносіны да ўласнага астральнага цела маюць часам вынікі, пра якія можна даведацца больш падрабязна, прачытаўшы раман Дастаеўскага "Злачынства і пакаранне".*

*Нядрэнная рэклама, ці не праўда?*

*Пасля яе раптам знойдуцца лішнія дзве гадзіны, каб пазнаёміцца з вышэй указаным творам класіка.*

*Такім чынам, наша настаўніца рускай літаратуры 'эксплуатуе вольны час дзесяцікласнікаў, якія па суботах пакуль у кавярні прадаецца марожанае, сядзяць на ўроку і абмяркоўваюць, чаму Дастаеўскі (з такім жудасным гараскопам) стаў пісьменнікам, а не чорным магам.*

*І хто ведае, колькі белых плям не існавала б, калі б гісторыкі паспрабавалі зазірнуць у гараскоп вялікіх людзей і падзей!*

*Чаму, напрыклад, арыстакратычны, інтэлігентны Блок, які пісаў галоўным чынам пра прыгожых дам, з захапленнем складае "гімн перамогшаму народу" ("Дванаццаць")?*

*Менавіта таму, што гэта — гімн народу, новай краіне. Блок, як і савецкая дзяржава, нарадзіўся пад знакам Скарпіёна. Скарпіёны ж жывуць у рэзанансе з гараскопам сваёй краіны. Гэта значыць, куды краіна — туды і Скарпіён. І нават наадварот. Магчыма, па гэтай прычыне СССР умяшаўся ў афганскую вайну.*

*Бо Афганістан — частка вобласці, якая знаходзіцца пад гэтым знакам, а Суслаў і Усцінаў, якія ўцягнулі нас у гэтую вайну, — таксама Скарпіёны.*

*Няўжо не з'яўляецца дзіўным той факт, што Пётр I заснаваў Пецярбург пад сваім знакам — знакам Блізняты.*

*А бліжэй пазнаёміцца з тыповым іскрамётным Блізнятам вам дапаможа... праграмны раман "Пётр I".*

**Алена БЕРХІНА**, школа № 184.

# ДЗІЎНАЯ ГІСТОРЫЯ

Мары былі самыя звычайныя, і гэта, канешне, дзіўна, бо Белкін марыў стаць Прэзідэнтам Фонду прэзідэнтаў, што было прыемным фактам на фоне ўсеагульнай абыякавасці да ўсяго. Белкінскі план быў просты — прыйсці, напісаць, перамагчы. Было ўсяго некалькі нюансаў. Трэба сказаць, што Ваня быў чалавекам "экстраардынарным, але з невялікім комплексам пацення пад абедзвюма пахамі ў неардынарных выпадках", — як з гонарам ён гэта гаварыў пра сваю персону. У іншых жа выпадках Белкін быў проста добрым хлопцам, мог папросту пагаварыць пра надвор'е, прычым ужываючы пасля кожнага трэцяга слова "значыць", што, як ён думаў, з'яўляецца прыкметай вучонасці і культуры. Але дзіўнасць Ваневага становішча складалася ў тым, што белкінская таварыскасць праяўлялася не тады, калі гэта было неабходна, а тады, калі Белкін спаў. І тады ён бачыў сны. У адным з іх ён бачыў сябе разам з жанчынай сваёй мары (вельмі вядомай мадам). Другі сон уяўляў яшчэ большую цікавасць. Там Ваню здымалі з Прэзідэнтам. "Ды не, не, Іван Іваныч, пад правую вазьміце", — і Белкін, прасунуўшы руку пад правы локаць Прэзідэнта, усміхаўся ў камеру. Усё гэта было неяк загадкава і беспамылкова прадказвала Ваню, што да яго нясецца зорны час. І вось гэты час прыплёўся да Белкіна, які ў той час быў вядомым у пэўных (і не вельмі шырокіх) колах журналістам.

*Ваня Белкін даўно збіраўся стаць журналістам. Ён марыў пра подзвігі, пра славу і добрае шампанскае ўпрыкуску з ананасамі, якім–небудзь манга і каб усяго паболей.*

Хлюпатным днём Ваня прыйшоў у Дом культуры XXVII з'езда і першай справай агледзеўся, ці няма тут яго сапернікаў. Нікога не было, наогул нікога. "Дзіўна, што ніхто не прыйшоў, а правадыр племя аж з Буркіна Фасо з візітам прыбыў, прэс-канферэнцыю вось сабраў", — мільганула ў мозгу Белкіна. І тут ён убачыў яго. Правадыр, дарэчы, не заслугоўваў асаблівай увагі, нават нічога дзіўнага ў ім не было, толькі звычайнае кальцо ў носе, звычайная прычоска, якую не перадаць. Праз 15 хвілін Белкін змог смела глядзець у твар правадыру.

— Як вам наш горад, спадар правадыр? — пацікавіўся Белкін.

— Нумба, тумба, батумба, — з добразычлівым выразам твару адказаў правадыр.

— На жаль, гэты выраз не мае аналагаў у нашай мове, — пралепятала перакладчыца. Але Белкіна гэта не засмуціла, папрасіўшы правадыра паўтарыць яшчэ раз, ён усё ў дакладнасці запісаў у нататнік.

— А што вы можаце сказаць па пытанню эканамічных адносін паміж намі? — спытаў Ваня, маючы на ўвазе, вядома ж, не сябе.

— Батумба, тумба, нумба, — пачуў адказ.

— Вы нам нафту, мы вам какаву. Вось і ўсё пытанне, — пераклала на гэты раз перакладчыца. Белкін заззяў.

— А-а-а, скажы... — Ваня не дагаварыў.

— Тумба, нумба, батумба.

— Да пабачэння, дарагі сябар!

Бязмерна шчаслівы Белкін накіраваўся дамоў. Дзіўна, але белкінскі матэрыял чамусьці не прайшоў у друк. Чаму? Дзіўна, што пры ўсёй невядомасці Вані шырокаму колу чытачоў фраза правадыра "вы нам нафту, мы вам какаву..." хутка стала крылатай і часам мільгацела ў тэкстах аб узаемавыгадным супрацоўніцтве з племем Афрыканскага рэгіёна. А наш дзіўны Белкін усё яшчэ чакае свой зорны час. Дзіўна, на што гэта ён яшчэ спадзяецца? І наогул. Дзіўная гэта гісторыя, праўда?

**Вікторыя ДОЎГАБАРОДАВА**, г.Мінск.






Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№20 (210)

## *Відэатэка*




**"ПІНК ФЛОЙД" "МУР"**
**Метро Голдвін Мэйер, 1982**

Альбом брытанскага рок-гурта "Пінк Флойд" пад тою ж назваю – "Мур" – мы рэцэнзавалі ў "Нотным аркушы" № 2(192) за 1992 год. Але гэтае выданне – фільмавая версія альбома – істотна іншая рэч, таму пра яе варта пагаварыць асобна. Тым больш, што,паводле апытання газеты "Мелады Мэйкер", гэты фільм быў названы лепшым музычным фільмам года. Дый у нас ён цяпер ужо вядомы, бо паказваўся ў тэлеэфіры 8-га канала, прадаецца на відэакасетах у шмат якіх крамах. Што адрознівае яго ад шквалу разнастайнай музычнай відэапрадукцыі, які распаўсюджваецца ў цяперашні час? У чым адметнасць менавіта гэтага фільма?

Найбольш выразна, аб'ёмна мы асэнсуем гэта, бадай, праз параўнанне. Калі параўнаць кінастужку з мастацкімі фільмамі савецкіх кінематаграфістаў, якія праз сваю нашпігаванасць музыкай прэтэндуюць называцца музычнымі ("Душа", "АССА" і г.д.), дык "Мур" не ўпісваецца ў традыцыйныя каноны: тут амаль няма дыялогаў, няма нават канкрэтных персанажаў, а галоўную ролю іграе музыка.

Нямала апошнім часам паказвалася і музычных фільмаў з запісам канцэртаў розных славутасцяў (напрыклад, "Гарадскія джунглі" гурта "Ролінг стоўнз"). Што ж, тут ужо музыка выходзіць на першы план перад сюжэтнай канвой, але... Такія фільмы страчваюць драматургію, якая цудоўна трымае ўвагу слухача і гледача ў тым жа "Муры".

Адзінае, з чым застаецца параўнаць версію рэжысёра Алана Паркера "пінкфлойдаўскага" альбома, – гэта кліпы. Але не тыя, дзе пад рытм музыкі ідзе дэманстрацыя тэхнічных эфектаў, а тыя, дзе рознымі выяўленчымі сродкамі дасягаецца заглыбленне ў свет пэўнай музычнай кампазіцыі.

Вось толькі адна абмоўка напрошваецца пры такім параўнанні – гэта не пяціхвілінны кліп, а паўтарагадзінны. І хоць лаканічнасць – сястра таленту, але нельга без таленту весці і доўгія размовы на сур'ёзныя тэмы, каб цябе не адмовіліся слухаць.

А размовы "Мура" сур'ёзныя: канфлікт выхавання і вальнадумства, бацькоў і дзяцей.

Бадай, шмат у чым дапамагае рэжысёру ўтрымліваць увагу публікі разнастайнасць выяўленчых сродкаў: то камбінаваныя здымкі, то мультыплікацыя, то рэалістычны дакументалізм... І ўсё ж фільм настолькі жорсткі, што не кожны глядач вытрымае гэтыя паўтары гадзіны напругі. Але ад гэтага не страціць ні фільм, ні глядач, бо асэнсаванне тут ідзе не праз запамінанне сюжэта, а праз успрыняцце падсвядомай інфармацыі. Менавіта таму ў фільме шмат алегорый (чыстая вада, якая ператвараецца ў кроў, стракаты натоўп дзяцей, якія, праходзячы праз школу, выходзяць безаблічнымі калонамі, як чарвякі фаршу з мясарубкі). Ды зрэшты алегарычны і сам вобраз сцяны, у якой угадваецца і наш навакольны быт, нават дабрабыт, і фармальны навакольны этыкет...

Алан Паркер стварыў гэты фільм паводле сцэнарыя аднаго з "пінкфлойдаўцаў" – Роджэра Уотэрса. Музыку разам з Р.Уотэрсам і Д.Гілмарам пісаў Б.Эзрын. Як і на альбоме, тут яна гучыць у выкананні гурта "Пінк Флойд", хоць для выканання драматычных роляў запрашаліся прафесійныя акцёры.




**"ХРЫСТОС ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў ГАРОДНІ"**
**Берома, 1992**

Мастацкую стужку кінастудыі "Беларусьфільм", знятую яшчэ ў 1967 годзе, не ўпершыню бярэ пад увагу "Нотны аркуш". І не толькі таму, што ў фільме мы можам пачуць, як спявае старажытную беларускую песню сам Уладзімір Караткевіч, па чыйму раману зняты гэты твор. Нас цікавіць тут і музычная аздоба фільма, якая стала адметай свайго часу – часу стварэння фільма.

1967 год – гэта яшчэ калі ў душах цеплілася хрушчоўская адліга, а ў рэальнасці панаваў ужо брэжнеўскі застой. Вось гэтак і выйшла тады, што фільм знялі, але на экраны не выпусцілі.

Дый потым яго чакаў не лепшы лёс.

Другая палова 80-х – гарбачоўская перабудова. Зноў пачаўся шоргат на забытых, запыленых паліцах. І з таго, што засталося ад беларускага "Хрыстоса...", склеілі фільм і зрабілі ў 1989 прэм'еру. Праз тры гады маўчання – яшчэ адна прэм'ера (на тэлебачанні). На гэтым бы і скончылася пакутная адысея духоўнага скарбу па сваёй радзіме. Афіцыйныя структуры так і не здолелі (дый не намагаліся) зрабіць з гэтага фільма падзею, хоць у колах беларускіх інтэлектуалаў ён мае свой розгалас, на яго ёсць попыт. Вось гэтым і скарысталася вядомая нам ужо відэастудыя "Берома", якая падрыхтавала відэакопію гэтага фільма і распаўсюджвае яго на касетах у прыгожым афармленні мастака М.Грака.

Нагадаем, што паводле сцэнарыя, напісанага самім Уладзімірам Караткевічам, фільм зняў расейскі рэжысёр Уладзімір Бычкоў пры ўдзеле С.Скварцова. Музыку напісаў украінскі кампазітар А.Каравайчук.

На жаль, нельга сказаць, каб музыка адпавядала настрою фільма, ягонай ідэі. Моцны дух еўрапейскага народа – і балалаечныя тэмбры азіяцкіх карагодаў... Усё гэта мімаволі падкрэслівае хлуслівасць часу, калі ствараўся фільм. Дый тыя ж сцэны са скокамі і карагодамі, аказваецца, былі адкінуты самім рэжысёрам, які ў гэтым сэнсе пагаджаўся з аўтарам сцэнарыя, але ўвайшлі ў апошні варыянт фільма, бо шмат больш каштоўных эпізодаў было да таго часу знішчана цэнзурай.

Бадай, самым моцным музычным момантам фільма аказаўся запіс старажытнай беларускай песні, якую спяваў У.Караткевіч. Яна – нібы лагічны апагей лейтматыву фільма, выказанага галоўным героем Юрасём Братчыкам, беларускім Хрыстосам: "Нельга кланяцца ніжэй плахі. Ганьба!"

Своечасовы і адпаведны задуме выхад фільма зрабіў бы яго падзеяй і ў кінематаграфіі, і ў нацыянальнай культуры. Спазненне і цэнзура шмат што перакрэслілі, але сёння, калі відэаіндустрыя робіць кіно справай індывідуальнай, студыя "Берома" дае шанц беларускай інтэлігенцыі папоўніць сваю нацыянальную відэатэку, распачатую праграмамі "Беларускі рок" і "Беларускія барды".

## *Вось табе і на*

# ЦІ БУДЗЕ ГУЧАЦЬ ДАНЧЫК?

Вялікае дзякуй вашай газеце, што не адмовіла, не адвярнулася ад праблем, хвалюючых аматараў беларускай песні. Мы, сябры "Фан-клуба аматараў творчасці Данчыка", разглядаем гэтую праблему на прыкладзе стаўлення да песень у выкананні гэтага спевака. У яго рэпертуар уваходзяць як народныя, так і бардаўскія песні. Ён запісаў у Амерыцы чатыры кружэлкі па-беларуску. Гэта — "Беларусачка", "Я ад вас далёка", "Мы адной табе належым" і, апошняя, "Мы яшчэ сустрэнемся". Гэтую кружэлку ён запісаў перад ад'ездам на радыё "Свабода" ў Мюнхен, бліжэй да Беларусі. Ён змяніў абжытае, цёплае месцейка ў Нью-Йорку на чужое, няведамае ў Мюнхене. Ён сутыкнуўся з новымі парадкамі, новай мовай, новай працай. Напачатку было складана, цяжка. Але ён спраўляецца, бо ведае, як чакаюць яго перадачы на Беларусі. Усё жыццё ён марыў трапіць на Беларусь. Тры гады таму гэтая мара спраўдзілася. Прыехаўшы на Бацькаўшчыну, ён даў каля дзесяці прафесійных канцэртаў у Менску, Беластоку, Полацку, Кіеве, Маскве і Санкт-Пецярбургу. На ўсіх канцэртах не было дзе сесці, яны прайшлі з аншлагам.

І ўвогуле, Данчык за свае 35 гадоў зрабіў для Беларусі вельмі шмат, улічваючы, што жыў за мяжой. Ён паказаў, як можна любіць Радзіму продкаў, як быць ёй адданым. Ён носіць яе ў сэрцы, не забывае ні на імгненне. Данчык зрабіў пераварот у нашым савецкім светапоглядзе на мову і культуру. Ён стаў прыкладам сапраўднага беларуса.

Але і Бацькаўшчына не павінна забывацца на сваіх сыноў. Яна павінна адказваць ім узаемнасцю.

З болем у сэрцы можна адзначыць, што нашы бюракраты з некаторых сродкаў масавай інфармацыі не хочуць гэтага зразумець. Так на радыё, у перадачы "Радыёфакт", не адзін раз замаўляліся песні ў выкананні Данчыка, але заяўкі да гэтага часу не спяшаюцца выконваць. Хаця дыктары шпарка выдаюць інфармацыю па-беларуску, музычныя паўзы — па-расейску. Усе ведаюць, што песня — гэта вельмі моцны сродак агітацыі ў такой папулярнай перадачы. Такое ўражанне, што гэта робіцца спецыяльна, быццам бы Беларусь сапраўды "Западно-русский край". Мы не супраць расейскай культуры, але трэба шанаваць сваю і паважаць сябе, а таксама нашых шматлікіх выканаўцаў беларускай песні. Не кажучы пра Данчыка, які на такой адлегласці ад нас робіць захады, каб падтрымаць духоўную культуру свайго народа. Затое на "Беларускай маладзёжнай" усё ў парадку. Дзякуй ёй.

А Данчык варты, каб яго песні гучалі штодзённа, гэта дазваляе і яго цудоўны голас, і яго рэпертуар. Чаго варта яго "Калыханка", якую абяцалі пускаць па радыё штодзённа! Пад гэты ласкавы голас дзеткі з асалодай засынаюць. Бо і словы, і музыка былі напісаныя спецыяльна для яго, а не для розных хрыпатых прыстасаванцаў да гэтай песні.

А чаго варта малітва Н.Арсенневай "Магутны Божа"! Каб яна стала гімнам Рэспублікі Беларусь, ды каб кожны дзень яе спявалі нашыя суайчыннікі, можа Бог і пачуў бы нас, гаротных беларусаў...

**Зміцер МАРЧУК,**
**старшыня Клуба**
**аматараў творчасці Данчыка.**

## *Відэасалон*



НА ЗДЫМКУ: знакаміты італьянскі тэнар Лучана Павароці.
Фота АНСА.



## *Нататнік*

Да ведама аматараў беларускае песьні: Багдан Андрусышын (Данчык) перадаў "Фан-клубу аматараў творчасці Данчыка" партыю грампласцінак з Амерыкі. Гэтыя плыты "Я ад вас далёка" і "Мы адной табе належым" можна набыць непасрэдна ў Фан-клубе т.23-35-17 і ў Беларускім Доме грампласцінак.

* * *

Новы беларускі рок-гурт пад назвай "Віленскі тракт" адкрыла нядаўна газета "Гомельская праўда". У ейным нумары за 24 лістапада змешчана нататка Ларысы Граматчыкавай з фотаздымкам гурта. У складзе калектыву трое музыкаў: Андрусь Чалапа, Алесь Тарноўскі і Зміцер Грамыка. Тэксты і музыку пішуць самі, а змест твораў падказвае само жыццё: гісторыя, сучаснае адраджэнне Беларусі, маральныя праблемы – усё цікавіць малады калектыў.

* * *

"Ален", які ў Беларусі лічыцца ўзыходзячай поп-зоркай, бярэцца ўжо ў абарот Маскоўскай філармоніяй. Пасля пробных двухмоўных канцэртаў выканаўцу з Наваполацка прапанавалі сталы кантракт. Застаецца адно пытанне: ці паўстрымаюць нашыя шоу-дзялкі чарговы адток талентаў?

* * *

У сярэдзіне снежня ў польскім горадзе Лоддзі прайшоў Тыдзень беларускай культуры. Раней такія мерапрыемствы насілі характар афіцыёзу, а цяпер у свяце прынялі ўдзел нямала тых, каго калісьці называлі "нефармаламі". Сярод іх і нашыя добра знаёмыя: рок-гурт "Крама", фальклорны ансамбль "Ліцвіны" (на здымку), бардаўская спявачка Кася Камоцкая.

Фота У.ПАНАДЫ.



## ФРЭДЗІ МЭРКУРЫ

(5 верасня 1946 - 24 лістапада 1991)

Ангельскі спявак, музыкант, кампазітар, які, безумоўна, застанецца ў шэрагу буйнейшых зорак музыкі нашага часу. Чалавек, які напісаў і выканаў дзесяткі песень сваіх і сяброў — калег з гурта "Queen", у складзе якога няспынна працаваў апошнія дваццаць гадоў бліскучага жыцця. Гурта, які за гэты час ніколі не змяняў свой склад і закончыў існаваць толькі з-за смерці Фрэдзі (дарэчы, ягонае сапраўднае імя Фрэдэрык Булсара). Апошняе выступленне "Queen" правялі на "Уэмблі", на жалобным канцэрце памяці Фрэдзі Мэркуры, дзе ягоныя песні выконвалі шматлікія вядомыя выканаўцы свету. Паўтарыць цуд голасу Фрэдзі не атрымалася ні ў каго — гэта немагчыма. Столькі талентаў увасобіў у адным чалавеку Бог, што дзівуешся. Бо, да таго ж, Мэркуры быў яшчэ і выдатным танцоўшчыкам, і мастаком з вышэйшай адукацыяй, і проста прыгожым чалавекам.

Акрамя чатырнаццаці студыйных і двух канцэртных альбомаў, запісаных разам з "Queen", Фрэдзі Мэркуры распрацаваў тры сольныя праекты: альбом 1985 года "Mr.Bad Guy", у 1988 годзе выйшла "Barcelona", запісаная разам з самай вядомай каталонскай опернай спявачкай Мансерат Кабалье (галоўная кампазіцыя да гэтага часу трымаецца ў гіт-парадзе часопіса "Білборд" на першых прыступках у спісе брытанскіх сінглаў), а ў канцы лістапада гэтага года ў Лондане адбылася прэзентацыя яшчэ аднаго, пасмяротнага сольнага альбома спевака. Так што для нас з вамі хутка адбудзецца яшчэ адна цікавая сустрэча з Фрэдзі Мэркуры. Быццам ён усё яшчэ жывы...

## Фотаплакат № 56

FREDDIE MERCURY




## МІСТЭР БЭД ГАЙ

Словы і музыка Фрэдзі Мэркуры.

*Пераклад з ангельскай Яўгена Пучкова.*

Давай зловім вясёлку ў аблоках,
Маё запрашэнне,
Давай усе пойдзем разам у мой экстаз!

Я - містэр Бэд Гай*,
Так, для ўсіх я толькі містэр Бэд Гай.
Разумееш ты, я містэр Мэркуры.
О, крылы распрастай, ляці за мной!

Тваёй спагадзе месца тут няма:
Дрэнная сувязь,
Раптам стаць хачу прэзідэнтам ЗША?

Я - містэр Бэд Гай... (рэфрэн).

Я містэр Бэд Гай,
Усе баяцца мяне,
Бо я руйную ўсім жыццё.
Містэр Бэд Гай, усе баяцца мяне,
Гэта адзіны шлях мне быць,
Бо такі мой лёс!
Містэр Бэд Гай, містэр Бэд Гай, Бэд Гай!

Толькі гэты шлях у мяне,
Бо такі мой лёс.

Я - містэр Бэд Гай,
Так, для ўсіх я толькі містэр Бэд Гай.
Разумееш ты, гэта мой лёс такі.
О, крылы распрастай, ляці за мной!

**Bad Gay - з ангельскай - дрэнны хлопец.*

## *Спяваем па-беларуску*

# НАД МЁРТВЫМ ЖНІВОМ

### Музыка і словы Васіля Лебедзева

Беларусь ты мая,
Ты за волю змагалася заўжды.
Беларускі матыў
Бараніла ў смяротных баях.

Успомніце, браты,
Маладосць сваю! 2 разы
Успомніце браты,
Беларусь!

Белы бусел цяпер
Не ляціць над маёю зямлёй,
Белы бусел замоўк
Над Палессем,
Над мёртвым жнівом.

Што зрабілі вы
З роднаю зямлёй, 2 разы
Што зрабілі вы
З Руссю Белаю!!

Адраджэнне зямлі,
Адраджэнне палёў і лясоў,
Адраджэнне зямлі,
Адраджэнне радзімы маёй!

Для таго, каб і мы
Адчувалі сябе беларусамі,
Для таго, каб і мы 2 разы
Адчувалі радзіму сваю!

Адраджэнне зямлі,
Адраджэнне краіны маёй
Для таго, каб і мы
Пачувалі людзьмі на зямлі!

Успомніце, браты,
Маладосць сваю! 2 разы
Успомніце, браты,
Беларусь!

## *Рэпліка*

# "ЯТВЫЗЬ" НЕ Ў ТОЙ ТУСОЎЦЫ

Тэлевізійны музычны конкурс "Песню бярыце з сабой" валодае адной асаблівасцю. Толькі ў яго шматгадовых выпусках можна сачыць за ростам, узмужаннем і згасаннем эстрадных зорак... Часам здаецца, што гэты тэлеконкурс і створаны пад вызначанае кола выбраных кімсьці выканаўцаў. Менавіта яны з года ў год рэпрэзентуюць гледачу масавыя музычныя жанры ў Беларусі. Не кажу ўжо пра аздобу: тыя ж дэкарацыі, той жа антураж і святло. Што ў Менску, што ў Слуцку...

Напэўна, разумеючы сэнс гэтай заганы, стваральнікі конкурсаў заўсёды імкнуцца парадаваць гледачоў "сюрпрызамі". Вось і нядаўні выпуск яго не стаў выключэннем. Перад жыхарамі Кобрына, пад тэлевідарысы помніка рускаму генералісімусу А.Сувораву, упершыню выступіў новы попгурт "Ятвызь". Ну калі ёсць такая назва — значыць, трэба чакаць з'яўлення на тэленебасхіле вядомага М.Шаляговіча — старшыні грамадска-культурнага аб'яднання "Полісьсе", галоўнага "яцвяга" Беларусі.

Так яно і здарылася: спадар Шаляговіч уступным словам папярэдзіў выступ гурта. Праўда, старшыня аб'яднання "Полісьсе" на гэты раз абышоў канфліктныя вуглы: цьмяна паспрабаваў растлумачыць, што на гэтай зямлі існавала "нешта накшталт" дзяржаўнага ўтварэння, падкрэсліў своеасаблівасць палескай гаворкі, заклікаў да шматмоўя ў беларускай эстраднай песні. На тым, як кажуць, і разышліся.

Ну, а што сам гурт "Ятвызь"? Нават мне, знаёмаму з палескай гаворкай толькі па песенным фальклоры, мова ўдзельнікаў гурта (а словы для яго піша сам Мікола Шаляговіч) падалася абсалютна (!) беларускай, нават больш нацыянальнай і арганічнай, чым у некаторых сталічных эстраднікаў, якія жывуць з беларускай мовы. І асабліва гэта ўразіла, калі людзі паслухалі "Ялынку". Эфект такі, як пасля прачытання "Пінскай шляхты" або праслухоўвання палескіх песень гурта "Купалінка" — творы ўспрымаюцца як глыбінна-беларускія, аўтэнтычныя і абсалютна нашыя, нацыянальныя.

Зразумела, не абышлося ў выступленні "Ятвызі" без палітыканскага замесу спадара Шаляговіча. Аднайменная песня на словы таго ж аўтара аказалася даволі кволай спробай стварыць новы "яцьвяжскі" гімн. І не таму, што музыкі не зразумелі паэтычнай структуры верша. Проста з гэтым "творам", разам са спадаром Шаляговічам, яны аказаліся ў цэнтры недарэчнай палітычнай валтузні з "канфедэратызацыяй" палескага рэгіёна — "ідэяй фікс" М.Шаляговіча.

Гэта абавязкова трэба ўлічваць на этапе фарміравання свайго творчага аблічча музыкам з "Ятвызі". Палітыканства пярэчыць творчасці ўвогуле. Да таго ж, на маю думку, словы вядучай конкурсу З.Бандарэнка пра самабытнасць трэба ўспрыняць музыкам з "Ятвызі" як аванс. Пакуль яна, гэтая самабытнасць,— у моўнай сферы.

Думаю, што лагічным крокам музыкаў з "Ятвызі" стаў бы ўдзел іх у паўнакроўнай беларускамоўнай "тусоўцы", у беларускім фестывальным руху.

**А.МЯЛЬГУЙ,**
крывіч.

## *Фанатэка*

CZERWONE GITARY

### "ЧЭРВОНЭ ГІТАРЫ"
### "ГЭТА МЕНАВІТА МЫ"
### ЗЛП, Польске награня, 1990

Рок-музыка 60-х гадоў. Пры гэтых словах многія ўзгадваюць толькі "бітламанію". Але ж у 60-я гады рок развіваўся не толькі ў Вялікабрытаніі або Амерыцы. Проста стаўленне да гэтай музыкі ў так званых сацыялістычных краінах было рэзка адмоўнае. У лепшым выпадку яе адносілі да разраду шлягераў-аднадзёнак.

Але ўсё ж незалежна ад стаўлення гэтыя нібыта "аднадзёнкі" дзе-нідзе знаходзілі сваё ўвасабленне ў вінілавых кружэлках, у музычных фільмах, кіна- і тэлеролiках.

Мінулі дзесяцігоддзі і... людзі адчулі патрэбу, настальгію па тых "шлягерах". Дыскі "Бітлз", "Ролінг стоўнз" сёння перавыдаюцца не толькі ў Брытаніі, але і ў Чэха-Славаччыне, Нямеччыне, Мадзьяршчыне, Польшчы, Расіі.

Тым жа мадзьярам, палякам ёсць шанц прыгадаць і сваіх шасцідзесятнікаў: "Амега", "Ілеш", "Чэрвона-чарнэ", "Нябеска-чарнэ"... А ці можам мы, беларусы, прыгадаць сваіх "Лявонаў", "Шпакоў", "Дойлідаў"?.. Наўрад. І "падзякаваць" за звышпільнасць трэба тагачасным камуністычным цэрберам ад культуры.

Дыскі "З архіва польскага року" сёння выдатна канкурыруюць з выданнямі найноўшымі, з музыкай наймаднейшых гуртоў. А фірма "Польске награня" нядаўна распачала цэлы цыкл архіўных перавыданняў. Адно з іх – поўная дыскаграфія гурта "Чэрвонэ гітары".

Перад намі – першы камплект гэтай серыі: тры першыя альбомы славутага калектыву.

"Гэта менавіта мы" (1966). Альбом уключае 14 песень-"аднадзёнак", дзе век некаторых перасягнуў дзесяцігоддзі. Хіба не прыгадваеце вы і сёння лагоднай, пяшчотнай "Не кажы нічога" або зухаватага рок-н-рола "Не задзірай носа". У складзе гурта тады былі Севярын Краеўскі (гітара, вакал), Ежы Касэла (гітара), Бернард Дарноўскі (гітара), Кшыштаф Кленчон (бас-гітара), Ежы Скшыпчык (барабаны). Відаць, пра сябе песня "Нас пяцёра".

"Чэрвонэ гітары" № 2 (1967). Тут ужо Кленчон узяў гітару, а на басе ды разам і на клавішных зайграў Краеўскі. Зусім адышоў Касэла, хоць ягоныя тэксты яшчэ часткова захаваліся ў рэпертуары калектыву (напрыклад, кампазіцыя "Калі нехта кагосьці пакахае").

"Чэрвонэ гітары" № 3 (1968). Склад гурта пакуль не змяняецца больш. Усё шчыльней ансамбль супрацоўнічае з новым пакаленнем паэтаў-песеннікаў (К.Дзікоўскі, М.Гашыньскі), звяртаецца да прафесійнай паэзіі (Я.Кандратовіч). Хоць апошні прыклад быццам і не ў традыцыях рок-музыкі, але кампазіцыі ўдзельнікаў гурта і тут здолелі захаваць свой непаўторны твар: "Калі пажадаеш", "Не лічы дзён", "Калісьці зноў цябе паклічу".

Над рэканструкцыяй архіўных запісаў працавалі рэжысёры А.Сасін, А.Лупа, К.Урбаньска, М.Альшэўска. Мастацкая аздоба камплекта належыць А.Улашчынскаму.

БЛІЗНЯТЫ
СЁМАЯ ХВІЛІНА

### "БЛІЗНЯТЫ"
### "СЁМАЯ ХВІЛІНА"
### Акадэмія, 1985

Гісторыя беларускага рока без менскага сімфа-рокавага гурта "Блізняты" была б няпоўнай. Але, акрамя прэзентацыйнага артыкула ў часы росквіту калектыву, "Блізняты" толькі эпізадычна фігуруюць на нашых старонках. І сёння мы вырашылі запоўніць наяўны прагал ды расказаць пра найцікавейшы альбом гурта – "Сёмая хвіліна", які да сённяшняга дня захаваўся ў калекцыях магнітазапісаў многіх аматараў рок-музыкі.

Тады, у 1985-м, малады гурт абсанаваўся ў адным з інстытутаў Акадэміі навук Беларусі, абсталяваў там някепскую студыю, дзе рабіліся фанаграмы і для радыё, і для тэлебачання. Менавіта там запісвалася і сімфа-рок-паэма "Сёмая хвіліна".

У складзе калектыву пад час запісу альбома працавалі: Андрэй Іваноў (лідэр-гітара), Аляксей Генералаў (бас-гітара), Сяржук Старыковіч (барабаны), Андрэй Талкачоў (вакал, клавішныя). Гукарэжысёрам з'яўляўся Зміцер Платко, ад якога сыходзілі і многія творчыя ідэі.

Аснову для сваёй будучай працы – маленькую паэму маладога пастаўскага паэта Алеся Касценя – музыкі знайшлі на старонках газеты "Чырвоная змена", дзе яна друкавалася восенню 1984 года пад рубрыкай "На паэтычнай арбіце". Немалаважную ролю тут адыграў тагачасны прэзідэнт менскага рок-клуба "Няміга" Анатоль Мяльгуй. Для апошняга нацыянальнае ўсведамленне беларускіх музыкаў было адной з першачарговых задач сумесна з імі створанага аб'яднання. "Сёмая хвіліна" і стала для "Блізнятаў" пунктам вяртання ў нацыянальную стыхію, куды вяла дарога, пракладзеная "Мроямі", "Бондай", "Магістратам".

Структурна альбом падзяляецца на чатыры часткі: 1. "Камп'ютэр". 2. "У логаве машыны". 3. "Пілот". 4. "Зямля". І хоць кожная з гэтых частак нярэдка выкарыстоўвалася адасоблена ў розных радыё- ды тэлеперадачах, а цалкам яна захавалася толькі ў магнітазапісах, гэты твор нельга разглядаць як нейкую музычную сюіту: цэльнасць музычна-вобразнай палітры выяўляецца толькі ў агульнай панараме.

Ідэя твора – небяспека жыццю чалавецтва, якая навісла ў свеце, лёс якога цалкам кінуты на міласць "тэхнічнага розуму". Нягледзячы на сур'ёзнасць праблемы, праграма вытрымана ў аптымістычнай танальнасці, з верай у тое, што Зямля назаўсёды застанецца "калыскай і родным домам аратых, дойлідаў, паэтаў".

### "ПІНК ФЛОЙД"
### "ТРУБАЧ ЛЯ БРАМЫ ЗОЛКУ"
### EMI, 1967

Чым часцей пра "Пінк Флойд" гавораць цераз іхнія працы пасля 1973 года, калі выйшлі "Зваротны бок Месяца", "Жывёліны" і г.д., тым больш ранейшы перыяд адыходзіць у разрад нейкага татальнага эксперыментатарства, дзе ўсё запоўнена спрэс канкрэтнымі гукамі, за якімі не відаць чыста музычнай гармоніі.

І вось, пазнаёміўшы нашых чытачоў з усімі найбольш этапнымі альбомамі, мы вырашылі заглыбіцца ў дыскаграфію славутага калектыву і сягнуць аж у 60-я гады.

Тады панавалі два полюсныя напрамкі ў брытанскай рок-музыцы: так бы мовіць, "бітлаўскі" – пяшчотны, лагодны, і "ролінгаўскі" – задзірысты, ваяўнічы. Якое ж месца займаў "Пінк Флойд" у гэтай палітры?

Прызнацца, ягоную музыку нельга было назваць падобнай ні на музыку "Бітлз", ні на музыку "Ролінг стоўнз". І справа тут не ў нейкіх эксперыментах з канкрэтнымі гукамі, якія ўплываюць у структуру музыкі дзвюх-трох кампазіцый. Проста музыка "Пінк Флойд" – гэта нейкі своеасаблівы сусвет, які фарміраваўся не пад уплывам музычнага рынку і законаў шоу-бізнесу, а ў працэсе ўнутранага асэнсавання рэчаіснасці музыкамі калектыву.

Альбом "Трубач ля брамы золку" складаецца з адзінаццаці кампазіцый-частак: "Астранамічнае панаванне", "Lucifer Sam", "Маці Мацільды", "Палымяны", "Pow R. Toc H", "Падымі свой стэтаскоп і шпацыруй", "Міжзорная мітусня", "Гном", "Частка". "Пудзіла", "Bike". Усе яны напісаны заснавальнікам і душой калектыву Сідам Барэтам. Выключэнне складаюць хіба пятая і сёмая з іх, якія абавязаны сваім з'яўленнем плёну творчасці ўсяго калектыву (гэта на той час Сід Барэт, Роджэр Уотэрс, Рычард Райт, Нік Мэйсан), а таксама шостая кампазіцыя, якая належыць пяру Роджэра Уотэрса.

Раннія альбомы "Пінк Флойд" – рэдкая з'ява нават на рынку клубаў філафаністаў, а не толькі сучасных музычных крамаў. Але нядаўна многія з іх выйшлі з разраду рарытэтаў. Адбылося гэта (у прыватнасці, на беларускім музычным рынку) дзякуючы дзейнасці сумеснага дацка-японска-польска-нямецкага прадпрыемства "Elbo", дзе архіўныя альбомы славутага брытанскага рок-калектыву перавыдаваліся ў серыі "Музычныя гіганты".

# АЛЬМА-МАТЭР СУЧАСНЫХ АРФЕЯЎ

*Нядаўна ў культурным жыцці рэспублікі адбылася знамянальная падзея — БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ КАНСЕРВАТОРЫЯ, якая мае сёння еўрапейскую вядомасць сваімі выпускнікамі-выканаўцамі, кампазітарамі, музыказнаўцамі і педагогамі, адзначыла сваё 60-годдзе. У свой час скончыў яе і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, народны артыст Беларусі прафесар М.КАЗІНЕЦ, які вярнуўся ў "альма-матэр" выкладчыкам і рэктарам. Нягледзячы на вялікую занятасць, ён ласкава згадзіўся расказаць нашым чытачам, адкуль і куды ідзе Беларуская акадэмія музыкі, падзяліцца думкамі пра тое, што чакае вышэйшую музычную адукацыю, а значыць, і мастацтва рэспублікі.*

– Міхаіл Антонавіч, у нас ёсць людзі, якія лічаць, што беларуская дзяржаўнасць вядзе адлік з 1 студзеня 1919 года. Дык, можа, і беларуская музычная культура нарадзілася пасля стварэння Белдзяржкансерваторыі?

— Музычная культура нарадзілася разам з народам, яго песнямі, якія суправаджалі беларуса ўсё жыццё — ад нараджэння да смерці. Ва ўсе часы, і ў светлыя гадзіны, і ў трагічныя, яна жыла разам з народам. Аснова нашай музычнай культуры — гэта фальклор, скарбніца, якую трэба захоўваць і шанаваць.

Менавіта на гэтай глебе выраслі таленты нашых выдатных кампазітараў — Мацвея Радзівіла, сусветна вядомых Станіслава Манюшкі, аўтара першай беларускай оперы "Сялянка" і Міхаіла Агінскага.

Упэўнены, што пачуем і новыя імёны, якія былі незаслужана забытыя. Мы дрэнна ведаем сваю музычную спадчыну, у якой мноства белых плям і якая чакае сваіх даследчыкаў. Бо толькі ў XVIII стагоддзі ў Беларусі існавала 26 тэатраў з openнымі і балетнымі трупамі. А ці шмат мы ведаем пра музычную, вакальную і балетную школы ў Нясвіжы?

– Можна сказаць, што стварэнне кансерваторыі аднаўляла развіццё музычнай адукацыі на Беларусі, перарванае пасля далучэння да Расійскай імперыі?

— Не зусім. У 20-я гады працавала ўжо некалькі музычных тэхнікумаў, але яны не маглі забяспечыць адпаведны ўзровень прафесіяналізму. Кансерваторыя ўзнімала музычную адукацыю на прыступку вышэй. Яна стала, як тады гаварылі, кузняй музычных кадраў, бо ўсе вядучыя творчыя калектывы фарміраваліся з яе выпускнікоў, тут склалася беларуская кампазітарская школа.

– А хто стаяў ля вытокаў вышэйшай музычнай школы Беларусі?

— Мы ўдзячны Пецярбургскай і Маскоўскай кансерваторыям, чые выхаванцы шмат зрабілі для нашай культуры. На работу ў Мінск прыехалі вучань Рымскага-Корсакава прафесар У.Залатароў, кампазітар М.Аладаў. Самабытныя выканаўчыя школы стварылі цудоўныя інструменталісты, піяністы В.Сямашка і Г.Пятроў, скрыпачы А.Бяссмертных і А.Від'ен, кантрабасіст І.Салодчанка, выкладчык вакалу А.Баначыч.

– Відаць, вядомыя ў музычным свеце традыцыі Пецярбургскай і Маскоўскай кансерваторый далі на нашай зямлі добрыя ўсходы?

— Думаю, не трэба прадстаўляць нашых выпускнікоў кампазітараў У.Алоўнікава, А.Багатырова, Я.Глебава, Д.Смольскага, С.Картэса, І.Лучанка. А музыканты? А спевакі? Вельмі доўга прыйшлося б усіх пералічваць.

Пра наш сённяшні ўзровень мяркуйце самі, прычым я назаву толькі некаторых. Д.Марозаў перамог на міжнародным конкурсе піяністаў у Сіэтле (ЗША). І.Юркоўская стала лаўрэатам конкурсу ў Італіі. На конкурсе выканаўцаў на народных інструментах "Кубак Поўначы" цымбалістка Л.Рыдлеўская выклікала фурор. А з тэнарамі У.Франкоўскім і М.Грыгорчыкам нямногія ў свеце могуць спаборнічаць.

Толькі ў апошні час на аснове аркестравых калектываў акадэміі ўзніклі Дзяржаўны канцэртны ансамбль пад кіраўніцтвам М.Фінберга і аркестра духавой музыкі "Няміга".

Канцэрты хору, сімфанічнага, камернага, духавога аркестраў, аркестра народных інструментаў уяўляюць сабой прыкметную з'яву ў музычным жыцці Беларусі. Больш як тысячу канцэртаў дае акадэмія штогод.

– Зараз Белдзяржкансерваторыя называецца Беларускай акадэміяй музыкі. Што паўплывала на змену імя – мода або?..

— Або. Фармальна кансерваторыя, па еўрапейскіх мерках, сярэдняя навучальная ўстанова. З пашырэннем міжнародных кантактаў вельмі часта прыходзілася тлумачыць, што ў нас — ВНУ. Яшчэ адна прычына — нацыянальная традыцыя. На Беларусі навучальныя ўстановы было прынята называць акадэміямі. Са зменай назвы мы хочам памяняць і змест, ператварыць акадэмію ва ўстанову універсітэцкага тыпу. Мы павінны стаць акадэміяй не толькі па назве, а па сутнасці, стаць цэнтрам музычнай адукацыі, выканаўчай і кампазітарскай школ, навуковай думкі. Неабходна пашырыць маштабы даследчай дзейнасці ў галіне музыкі і стварыць еўрапейскі імідж выканаўчага цэнтра, каб наша акадэмічная сцэна стала вядомай і аўтарытэтнай.

– На юбілеях не прынята гаварыць аб праблемах. Але ж ад жыцця нікуды не дзецца. Што ў вас сёння выклікае найбольшую занепакоенасць?

— Галоўная праблема нацыянальнага адраджэння нашага народа — гэта праблема вяртання роднай мове належнага ёй месца ў жыцці дзяржавы. У акадэміі мы паступова вырашаем гэту задачу.

Асноўнае пытанне, якое выклікае галаўны боль, — гэта фінансаванне. Нядаўна ў нас была дэлегацыя з кансерваторыі (нагадаю, сярэдняй навучальнай установы) Нансі. Французскія госці ўзялі габой выкладчыка, прафесара, і, паспрабаваўшы нешта выканаць, параілі выкінуць інструмент у акно, бо на ім немагчыма іграць. А мы іграем, і добра іграем. І пры гэтым зараз самы дрэнненькі раяль каштуе больш за мільён рублёў, не лепшая сітуацыя з цэнамі і на іншыя інструменты.

Яшчэ прыклад. На аднаго студэнта ў нас прыходзяцца тры квадратныя метры (замест трыццаці па савецкіх нормах). І што ж? Прыбудову ўзвесці не можам, суседні будынак, які нам даўно абяцалі, ніяк не аддадуць. Мала гэтага. Ва ўрадавых колах прапагандуецца думка аб неабходнасці платнай вышэйшай адукацыі. Ці ж незразумела, што божы дар разам з кашальком у спадчыну не перадаецца? Бедняку лёс можа падарыць абсалютны слых і анёльскі голас, а нашчадку багатага "наступіць мядзведзь на вуха". Ужо ёсць прыклады, калі нашы былыя студэнты, трапіўшы на Захад, не толькі не плацяць, а атрымліваюць стыпендыі. Узровень нашай акадэміі — еўрапейскі. І выкладчыкаў, і студэнтаў чакаюць на Захадзе з нецярпеннем. Калі мы хочам, ва ўсякім разе, захаваць тое, што ўжо напрацавана, без дзяржаўнай фінансавай падтрымкі не абысціся. Альтэрнатыва — заняпад музычнай культуры ў Беларусі, аж да разбурэння. Не хацелася б завяршаць размову на такой песімістычнай ноце, але такая ўжо праўда жыцця.

Гутарыў
Уладзімір ШУРХАВЕЦКІ.

# «НЕСАЛІДНАЕ» СВЯТА




У менскім Доме літаратара адбыўся I Балтыйскі дударскі фэст.

У першы дзень фэсту можна было, "не страчваючы саліднасць", паслухаць паказальныя выступы дудароў з Беларусі, Латвіі, Эстоніі і нават Шатландыі ды паслухаць байкі з гісторыі гэтага цудоўнага інструмента.

Дарэчы, ці ведаеце вы, што гэта інструмент, без якога цяжка ўявіць сабе сапраўднае народнае свята, быў у недалёкай мінуўшчыне забаронены? Так, самая звычайная дуда лічылася сатанінскай прыладай ды й за ігру на ёй накладалася кара — 25 год катаргі ці 3 рублі (тады гэта былі немалыя грошы...).

А вось далей захоўваць "саліднасць" было ўжо немагчыма, бо аўтэнтычны фальклор на самай справе вельмі адрозніваецца ад штучнай салодкаўсмешлівай самадзейнасці. Ён патрабуе жывой сувязі, таму нельга правесці мяжу паміж выканаўцамі і слухачамі-гледачамі. У праграме было напісана вельмі проста і зразумела: "Скокі".

На другі дзень удзельнікі фэсту атрымалі падарунак — экскурсію ў Музей народнага дойлідства ў вёсцы Строчыцы, а для гасцей свята быў таксама прыхаваны сюрпрыз — выступ дзіцячага гурта "Госьціца". Дарэчы, моўнага бар'еру не ўзнікала, бо танец і музыку разумеюць усе.

Заключны дзень фэсту пачаўся з навукова-практычнага семінара "Дуда: інструмент-міт" (міф) ды закончыўся зноў "несалідна" — скокамі.

Бацькамі свята былі цэнтр этнакасмалогіі "Крыўя", навукова-вытворчая фірма "Ваўкалака" ды маладзёжная арганізацыя "Выбранецкія шыхты".

Паўлюк БЫКОЎСКІ.



## Апладысменты

### ГОНАР ЯШЧЭ Ў ЦАНЕ

30-гадовы юбілей – такую дату адзначыў у сярэдзіне снежня вядомы ў рэспубліцы самадзейны калектыў – Ланскі мужчынскі народны хор Нясвіжскага раёна. Аснову рэпертуару хору складаюць творы нацыянальнай класікі, апрацоўкі беларускіх народных песень. Своеасаблівасць выканаўчай вакальнай асновы, багатыя па тэмбру моцныя мужчынскія галасы, прыхільнасць сваёй мястэчковай манеры выканання – усё гэта надае Ланскому калектыву непаўторнасць і своеасаблівасць. З 1984 года кіраўніком ансамбля з'яўляецца Іван Налівайка, якога з нагоды юбілею (разам з ансамблем) Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь узнагародзіла Ганаровай граматай. Відаць, гонар яшчэ ў цане.

### "ДАРОСЛЫ" СПЕКТАКЛЬ У ДЗІЦЯЧЫМ ТЭАТРЫ

Па запрашэнню Міністэрства культуры ў Мінску ў другой палове снежня знаходзіліся генеральны дырэктар нацыянальнага тэатра г.Мангейма (Германія) сп.Лутц Боўтлінг і дырэктар маладзёжнай групы гэтага тэатра сп.Хуберт Флахубер. Госці наведалі шэраг беларускіх тэатраў, мелі сустрэчу з кіраўніцтвам Міністэрства культуры.

Творчыя сустрэчы далі і свой плён – бакі дамовіліся абмяняцца пастановачнымі групамі тэатра Мангейма і тэатра юнага гледача. Так, на сцэне Мінскага ТЮГа нямецкія артысты ў красавіку наступнага года вырашылі паставіць спектакль па твору нямецкай драматургіі. Тэма яго сваёй сённяшняй актуальнасцю (і нашай недасведчанасцю) прываблівае – палавое выхаванне дзяцей. Ходзяць чуткі, што і пастановачная група ТЮГа на сцэне Мангеймскага тэатра будзе ставіць •спектакль па твору беларускай драматургіі.

### ІНШАПЛАНЕЦЯНЕ З'ЯВЯЦЦА Ў НАВАГОДНЮЮ НОЧ

Упраўленне культуры Мінгарвыканкама і Асацыяцыя тэатраў-студый СТД Беларусі вырашылі правесці ў Палацы спорту з 1 па 10 студзеня 1993 года навагодняе музычнае відовішча з удзелам лепшых мастацкіх калектываў Беларусі "Прыгоды Ціна і Тана на зямлі Беларусаў". Акрамя традыцыйных казачных персанажаў – Дзед Мароз, Снягурка, Несцерка, Баба Яга, – у ім удзельнічаюць дзве істоты з космасу – Цін і Тан, якія выпадкова трапілі на нашу планету ў навагоднюю ноч. Спроба рознымі мастацкімі сродкамі знайсці агульную мову і дапамагчы "іншапланецянам" з'яўляецца асновай вясёлага, казачнага спектакля, у якім, безумоўна, перамагае Дабро.

Паставіў гэтае цікавае відовішча вядомы рэжысёр Валерый Маслюк.

"Эстэтычную студыю" падрыхтавала Майя ШЭНДРЫК.

# ПЕРАДСВЯТОЧНЫЯ ПАРАДЫ

# КАЛЯДЫ

## ЧЫРВОНЫ БОРШЧ

Існуюць два класічныя варыянты: посны калядны і велікодны на мясным булёне. Абодва варыянты гатуюць на натуральным бурачным квасе. Закваска буракоў — справа вельмі простая і лёгкая: каля 1,5 кг вымытых буракоў пачысціць, парэзаць тонкімі лустачкамі, пакласці ў слоік і заліць цёплай вадой. Зверху пакласці кавалак жытняга хлеба, каб паскорыць працэс закваскі. Банку перавязаць марляй і паставіць у цёплае месца. Праз 2—5 дзён асцярожна зняць пену і пераліць празрысты рубінава-чырвоны буракові квас у чыстыя бутэлькі. У шчыльна закрытых бутэльках у холадзе ён не сапсуецца на працягу некалькіх месяцаў. Боршч гатуецца на моцным агароднінным адвары. Агародніну (сельдэрэй, пятрушку, моркву, цыбулю) зварыць разам з чатырма ачышчанымі і парэзанымі тонкімі лустамі бурака; дадаць 10 гарошын чорнага ці 2 гарошыны духмянага перцу і маленькі кавалачак лаўровага лісту. У другой каструлі з дзвюма шклянкамі вады зварыць 50—80 г белых сушаных грыбоў. Абодва адвары, агароднінны і грыбны, працадзіць праз сіта і змяшаць. Пасля ўліць у адпаведную колькасць бураковага квасу (прыкладна на 1,5 л адвару — 1,2 л квасу).

Боршч давесці да кіпення, але не кіпяціць. Акрамя солі на смак можна дабавіць цукар. Калі боршч недастаткова кіслы, уліць чарку чырвонага віна ці лімоннага соку (толькі не воцат). Патоўчаны кавалачак часнаку, пакладзены ў боршч, надасць яму своеасаблівы смак і духмянасць. Да баршчу па традыцыі падаюцца вушкі, па 6—8 на порцыю.

## ВУШКІ ДА БАРШЧУ

Цеста: 150 г мукі, 1 яйка і дробку солі. Цеста тонка раскатаць на дошцы і парэзаць на тоненькія квадраты (4x4), на кожны квадрат пакласці крыху фаршу, скласці трохвугольнікам, зашчыпаць, затым злучыць процілеглыя краі. Вушкі пакласці ў алейны кіпень. Як толькі ўсплывуць, значыць, гатовыя. Фарш: вараныя грыбы, адвар з-пад якіх выліць у боршч, раздрабіць, падсмажыць у алеі з невялікай дробна парэзанай цыбулінай, перамяшаць з 1 ст. лыжкай тоўчаных сухароў, 1 сырым яблыкам. Пасаліць, папярчыць на смак.






## ПРА КАЛЯДЫ, КУЦЦЮ І СВЯТОЧНЫЯ СТРАВЫ

Каляды — свята сямейнае, яго сустракаюць сярод самых блізкіх людзей. Калядная вячэра — гэта, бадай, адзіная ўрачыстая, якая захавала сляды абрадаў дахрысціянскіх часоў. Гэтыя два пачаткі — паганскі і хрысціянскі зліліся ў адзінае паэтычнае цэлае. За стол садзяцца з наступленнем цемнаты, калі на небе з'яўляецца першая зорка, якую дзеці выглядваюць з такой нецярплівасцю. Усе, хто сабраўся за сталом, дзеляць аплаткі і жадаюць адзін аднаму ўсяго найлепшага.

Каляды — кульмінацыя кулінарнага года. Але перш чым заняцца кулінарным бокам свята, успомнім некаторыя звычаі, найбольш характэрныя для Каляд.

Больш за ўсё старажытных звычаяў захавалася ў вёсцы. У вясковай хаце ва ўсе чатыры куты ці толькі ў пачэсны ставяць неабмалочаныя снапы збожжа. У некаторых месцах захаваўся звычай даваць у куццю свойскім жывёлам па кавалачку аплаткі, каб былі здаровыя і давалі добры прыплод.

Даволі распаўсюджаны звычай і ў горадзе класці сена пад абрус, якім засцелены стол. Дзяўчаты варажылі "на сене", жадаючы даведацца, што іх чакае. Калі выцягне з-пад абруса зялёную сцяблінку, значыць, яе чакае каханы і хуткае вяселле, калі пачарнелую саломінку — сардэчныя неўладкаванні, разрыў шлюбных планаў, а то, можа, і век у дзеўках сядзець.

Самы хвалюючы момант надыходзіў тады, калі дзяліліся аплаткай. У гэту ўрачыстую хвіліну адзін аднаму даруюць усе крыўды і грахі і замацоўваюць мір і згоду пацалункам.

Самы цудоўны з калядных звычаяў — запрашэнне на вячэру адзінокіх людзей. Бо ў гэты вечар ніхто не павінен адчуваць сябе пакінутым і забытым.

А цяпер заглянем у калядную кухню напярэдадні свята.

Галоўным пунктам кулінарнай праграмы Каляд быў і па сённяшні дзень застаецца куцця. Святочная вячэра была поснай. Нашы продкі строга прытрымліваліся пастоў, калі забаранялася есці мяса і сала. Пераважалі рыбныя стравы. Пачыналася вячэра адным з традыцыйных супоў: чырвоны боршч ці грыбны. Акрамя рыбных страў, падаваўся традыцыйны гарох з капустай, стравы з сушаных грыбоў, знакамітая куцця і святочныя пірагі. На моцныя напіткі пост не распаўсюджваўся, але пілі іх мала.

Салодкія вырабы з цеста на Каляды былі не такія разнастайныя, як, напрыклад, велікодныя. Першае месца займаюць пернікі і "макавец" — рулет з макам.

Рэцэпты даюцца з разлікам на 4—5 чалавек, за выключэннем салодкіх мучных вырабаў.

## ПІРАЖКІ ДА БАРШЧУ

Пясочнае цеста: 200 г мукі, 120 г масла, 1 невялікае яйка, 1 ст. лыжка смятаны і 1/2 чайнай лыжкі солі. Пералічаныя кампаненты перамяшаць, пасячы нажом, а затым хутка замясіць цеста, якое павінна "адпачыць" у халодным месцы 30 мінут. З даволі тонка раскатанага пласта выразаць чаркай кружкі, на кожны пакласці трохі грыбной начынкі, прыгатаванай гэтак жа, як для вушак. Скласці пароўну, зашчыпаць краі. Выпякаць у духоўцы да атрымання залацістага колеру.

## ПЕРНІК СВЯТОЧНЫ

Цеста можна замясіць за 4 тыдні да выпечкі і спячы за 3—4 дні да свята.

1/2 кг натуральнага мёду, 2 шклянкі цукру, 250 г шмальцу ці масла падагрэць, паступова павялічваючы агонь і давесці амаль да кіпення. Масу астудзіць. Дадаць 1 кг пшанічнай мукі, 3 яйкі, 3 чайныя лыжкі ачышчанай соды, разведзенай у 1/2 шклянкі халоднага малака, 1/2 чайнай лыжкі солі дабавіць прыправы: карыцу, гваздзіку, кардамон, імбір. У цеста можна пакласці прыгаршчу раздробненых арэхаў і 3 ст. лыжкі дробна нарэзанай і зваранай у цукры апельсінавай цэдры.

Цеста вымесіць, надаць яму форму шара і пакласці ў гліняны гаршчок ці эмаліраваны посуд, пакрыць сурвэткай і паставіць у халоднае месца. Гатовае цеста падзяліць на 2—3 часткі, раскатаць і пячы на лісце. Адразу пасля выпечкі каржы атрымліваюцца цвёрдыя, але праз 2—3 дні яны стануць мяккімі. Астатнія каржы намазаць слівавым павідлам ці арэхамі.

## МАКОЎНІК СВЯТОЧНЫ

Святочны рулет з макам адрозніваецца ад звычайнага не толькі тым, што ў ім менш цеста і больш макавай начынкі, але і самой начынкай, якая гатуецца з сапраўднай святочнай шчодрасцю.

Два віды цеста: дражджавое і пясочнае. Менш часу займае пясочна-дражджавое.

400 г пшанічнай мукі, 150 г сметанковага масла, 50 г дражджэй, старанна перамешаных з чайнай лыжкай ванільнага цукру або з цэдрай 1/2 лімона, 2 ст. лыжкі цукровай пудры, 2 яйкі, 1—2 жаўткі і 1/3 чайнай лыжкі солі пасекчы нажом на дошцы, каб усе кампаненты добра перамяшаць.

Затым замясіць рукамі цеста, каб яно атрымалася не вельмі тугое і бліскучае. На пасыпанай мукой дошцы тонка раскатаць гатовае цеста, надаць яму форму прамавугольніка, нанесці макавую начынку, пакінуўшы па баках свабодныя палоскі цеста шырынёй 2 см, скруціць асцярожна, перакласці ў прадаўгаватую форму, якую перад гэтым памазаць маслам ці накрыць змазанай тлушчам фальгой і даць рулету падняцца. Праз гадзіну паставіць рулет у падагрэтую духоўку. Праз 45—50 мінут ён павінен быць гатовы.

## ЦЕСТА ДРАЖДЖАВОЕ

Яно гатуецца з 300 г пшанічнай мукі, 150 г цукровай пудры, 150 г масла, 2 яек, 1/2 шклянкі малака, 40 г дражджэй і крышачку солі.

Масла старанна расцерці з цукрам, паступова дадаючы яйкі, соль і разведзеныя ў малацэ дрожджы. У самым канцы ўсыпаць муку і замясіць цеста. Пакрыць сурвэткай і даць падняцца на працягу гадзіны. Потым цеста раскатаць на дошцы, змазаць бялкамі, каб начынка не адставала ад цеста і аднолькава размеркаваць начынку. Цеста даволі шчыльна скруціць, канцы добра зашчыпаць. Выпякаць 45—50 мінут.

## НАЧЫНКА З МАКУ

40 г памытага маку заліць 1 л гарачага малака і варыць на слабым агні 30 мінут. Мак працадзіць і прапусціць праз мясарубку 3—4 разы. У посудзе з тоўстым дном растапіць 150 г масла, 3/4 шклянкі мёду, 1 чайную лыжку ванільнага цукру, дабавіць 100 г не вельмі дробна нарэзанага міндалю (ці іншых арэхаў), 150 г разынак, 1/2 шклянкі дробна парэзанай і зваранай у цукры апельсінавай цэдры. Пасля пакласці мак і падсмажыць усё разам на працягу 15 мін. Памешваць, каб маса не падгарэла. Калі маса астыне, дабавіць 3—4 жаўткі, старанна пацёртых з цукрам, і моцную пену, узбітую з астатніх бялкоў. Смак макавай масы будзе больш тонкім, калі ўліць чарку каньяку ці рому.

Гэта цудоўная начынка вельмі дарагая па сённяшніх часах, патрабуе шмат часу, але каляды бываюць толькі раз у годзе.

Прыемнага апетыту вам і цудоўных Каляд!



# ПЕРАДСВЯТОЧНЫЯ ПАРАДЫ

## НАВАГОДНІ СТОЛ



### НА СТАЛЕ — СВЯТА

Якім быць святочнаму сталу? Вядома ж, надзвычай прыгожым! Паклічце на дапамогу сваю фантазію і арыгінальна ўпрыгожце нават звычайныя стравы: салаты, печыва і напоі. Дарэчы, печаныя вырабы, нейкія іншыя стравы лепей зрабіць напярэдадні, каб перад Новым годам увесь дзень не ўвіхацца ля пліты і не быць у святочную ноч стомленымі.

Такім чынам, пакаштуйце тое, што мы вам прапануем.

### ПРАВАНСАЛЬ

Нашыткуйце капусту і моркву, наскрыляйце часнок у адвольных прапорцыях. Шчыльна пакладзіце ў 3-літровы слоік і заліце наступным растворам: на 1 л гатаванай вады — 2—3 ст. лыжкі цукру, 1/3 шклянкі солі, 1/2 шклянкі алею, 1 шклянку 6-працэнтнага воцату. Спецыі: лаўровы ліст, мята, перац. Вытрымайце суткі пры пакаёвай тэмпературы, потым пастаўце на холад. Ячшэ праз дзень гэтую салату можна падаваць на стол.

### РЫБНАЯ САЛАТА З АГУРКАМІ

Нашыткуйце дробна салёныя агуркі і адвараныя яйкі, дадайце бляшанку рыбных кансерваў, шклянку гарачага адваранага рысу, старанна перамяшайце, перакладзіце ў талерку і заліце сумессю з алею, солі, перцу і гарчыцы.



### ПЛОЎ З КУРЫЦАЙ

Рассячыце курыцу на кавалкі прыблізна па 100—150 г, пасаліце і пакіньце на 2 гадзіны. Будзе больш смачна, калі курыцу апрацаваць за дзень да прыгатавання плову. У чыгунным катле нагрэйце алей, спасеруйце на ім цыбулю, потым пакладзіце кавалкі курыцы і падсмажце да ружовай скарыначкі. Пасля гэтага пакладзіце моркву, наліце вады, дадайце спецыі, пасля таго, як закіпіць, дадайце соль. Варыце курыцу на маленькім агні на працягу 45 мінут.

Пакладзіце прамыты рыс і варыце, як звычайна.

На 200 г рысу — 100 г курыцы, 60 г алею, 100 г морквы, 50 г цыбулі, соль, спецыі.

### ЗАВАРНОЕ ПЕЧЫВА

1 1,2 шклянкі вады, 75—100 г сметанковага масла або маргарыну, 1/2 ч. лыжкі солі, 180 г (1 1,2 шклянкі) мукі, 4—5 яек.

Наліце ваду ў каструлю, пакладзіце масла, соль, пачакайце, пакуль закіпіць, зніміце з пліты, пакладзіце муку і перамяшайце. Пастаўце каструлю зноў на агонь, награвайце і мяшайце, пакуль цеста не пачне адліпаць ад сценак. Злёгку ахаладзіце, дадайце па адным усе яйкі, цэдру з 1/2 лімона і цукар па густу. Лыжачкай пакладзіце цеста на патэльню і выпякайце. Калі замест цукру і цэдры вы дадасцё крыху чырвонага перцу або цёртага сыру, у вас атрымаецца закусачнае печыва.

### НАВАГОДНІ ТОРТ

Узбіце 250 г сметанковага масла з 200 г цукровай пудры, дадайце па адным 3 жаўткі з яек і 100 г растопленага шакаладу, дробна нарэжце 250 г мармеладу, накрышыце 500 г печыва і спырсніце ўсё каньяком (50 г) або вішнёўкай. Праз 15 мінут перамяшайце, перакладзіце на талерку, афарміце ў выглядзе круглага торта і пакіньце на ноч у халаднаватым месцы. Раніцай (31 снежня) пакрыйце торт зверху і збоку ўзбітымі бялкамі з цукрам, упрыгожце.



### ТОРТ-ЖЭЛЕ "ПТУШЫНАЕ МАЛАКО"

Узбіць 8 бялкоў і 2 шклянкі цукру, крыху лімоннай кіслаты. Дадаць падагрэты жэлацін (20 г на 1 шклянку вады), старанна перамяшаць і заліць у прыгожую форму, паставіць на холад. Калі застыне, выняць з формы, упрыгожыць шакаладам, арэхамі або садавінай. Можна "пасадзіць" яго на любы падрыхтаваны і змазаны вар'эннем або крэмам корж.

### НАПОІ З КАЛЯРОВЫМ ІЛЬДОМ

Зробленыя дома ліманады, морсы або сокі можна падаваць з каляровым ільдом, атрыманым пры замарожванні сокаў, кавы або малака. Разбаўце сокі, дадайце цукар па густу. У шклянку пакладзіце 2—3 кавалачкі лёду рознага колеру.



*Атэлье "ЧЗ"*

## СУКЕНКА ЗА ПАЎГАДЗІНЫ

Да свята застаюцца лічаныя дні, а вы яшчэ не вырашылі пытанне, у чым будзеце яго сустракаць? Мы прапануем мадэль сукенкі, якую можна пашыць за лічаныя гадзіны. Памер 46. На яе пойдзе 2,6 м шоўку пры шырыні 0,9 м. Перад і спіна выкройваюцца аднолькава.

Спачатку зрабіце выкрайку па схеме з разліку: 1 квадрацік роўны 10x20 см. Прыпускі на бакавыя швы 2 см, на плячы і ля выразу гарлавіны 3 см. Прашыць на машынцы бакавыя і плечавыя швы, адпрасаваць. Выразаць гарлавіну да адзнакі "x", падагнуць, зашыць уручную. Падшыць рукавы і ніз.

Упрыгожыць можна наступным чынам. 1 — па абодва бакі выразу гарлавіны прымацаваць шлейкі шырынёй 4 см і прышыць гузікі спераду і ззаду. 2 — працягнуць дэкальтэ пасярэдзіне перапонкай шырынёй 4,5 см і даўжынёй 12 см. Унізе перапонкі прышыць прыгожы бліскучы гузік. З кавалка кантраснага колеру выкраіць дзве шырокія паласы і абшыць імі бакі рукавоў і пояс.






Майстэрню "ЧЗ" падрыхтавалі Віталь ДАЛІДОВІЧ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ.

# ГАРЧЫЧНІК











НАВАГОДНІ ВЕРНІСАЖ малюе А. ПАПОЎ







## Навагодні калейдаскоп

Усім беспрытульным падораць навагоднія падарункі, калі яны з'явяцца ў спецпрыёмнік,– паведаміла адна з газет Беларусі.

### ДЗЕД МАРОЗ: "МЯНЯЮ МЯШОК НА СУМУ"

У жабрацкай краіне жабрацкія нават Дзяды Марозы. Навагодні падарунак агульным коштам у 100 (сто) рублёў – вось які падарунак у Дзеда Мароза. Менавіта на такую суму (а значыцца і колькасць, і якасць цукерак адпаведная) прапануюць раённыя райхарчгандлі. Нават у славутых мінскіх магазінах "Ласунак" і "Рамонак" ажно ў пачатку IV квартала паліцы былі пустыя. Шырокі асартымент карамеляў па 160–200 рублёў. Гэты мізэр і будзе перададзены прафсаюзным камітэтам устаноў, прадпрыемстваў. А калі яны здолеюць купіць што-небудзь самі, то мяшок у Дзеда Мароза будзе багацейшы.

### МУС ПАПЯРЭДЖВАЕ: ДЗЕД МАРОЗ З КРЫВЫМ НАЖОМ

Перад Новым годам у горадзе з'явіліся небяспечныя "Дзяды Марозы" з крымінальным мінулым. Яны выкарыстоўваюць тое, што дзеці цяпер будуць чакаць падарункаў з лесу і ахвотна будуць адчыняць дзверы незнаёмцам з добрымі галасамі.

### ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

Адзін раз у год бывае гэты дзень, дзеля якога паважаныя мужы Мінскага гарвыканкама адклалі ўбок свае справы і замежныя вандраванні. Яны размясцілі на карце горада ўяўляемыя ёлкі. Месца галоўнай ёлкі ўжо вызначана. Яна змяшчаецца ля Палаца спорту. Планаваліся ёлкі ва ўсіх раёнах сталіцы. Незвычайнай з'явай у адзначэнні традыцыйнага свята сталі дзве дабрачынныя ёлкі – ад Саюза прадпрымальнікаў і ад польскай фірмы.

### З ПАДАРУНКАМІ ЦЯПЕР СКЛАДАНА

Даведаўшыся, што на навагодніх ранішніках у многіх школах не змогуць даць падарункі дзецям, бацькоўскія камітэты праявілі ініцыятыву па збору ўласных сродкаў на традыцыйныя кулькі. У гэтым сезоне нават паводле прыблізных падлікаў кожны самы сціплы падарунак абыдзецца ў некалькі соцень рублёў.

Так з'явілася пасланне да бацькоў: "Калі вы жадаеце, каб ваша дзіця атрымала ля навагодняй ёлкі падарунак, то здавайце па 300–400 рублёў". Усе хочуць, але не ўсе здольны зрабіць гэта. Тым больш, калі ў сям'і не адзін вучань, а заробку бацькі ледзь хапае на жыццё".

Віталь СМАГАЛЬ.

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ. Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ.
Выдавец: Газетна-выдавецкая фірма "БЕЛАЯ РУСЬ".

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і зверстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".

Галоўны рэдактар
Уладзімір БЕЛЬСКІ.